PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 45 (2217) Год XLIII Беласток 8 лістапада 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Юбілей Фронту

Яўген Міранові

**19 кастрычніка 1988 г. адбыўся ў Менску з'езд арганізацыі, якой удзельнікі прынялі назву Мартыралог Беларусі. Нацыянальныя і дэмакратычныя сілы ў Беларусі лічаць гэты факт пачаткам узнікнення Беларускага народнага фронту „Адраджэнне".**

Адліга на Беларусь прыйшла разам з Міхаілам Гарбачовым і пераменамі ва ўсім Савецкім Саюзе. Сярод інтэлігенцыі, на універсітэтах узнікалі шматлікія арганізацыі, якіх актывісты хацелі збавляць свет, чалавецтва, раней аб'яўленыя праўды пачыналі называць фальшам. Свабода слова ашаламляла перш за ўсё інтэлігенцыю. Люд беларускі прыглядаўся ўсяму гэтаму з поўнай абыякавасцю. Разам са свабодай пачынала не хапаць усяго, што было агульнадаступнае ў брэжнеўскую эпоху — харчовых прадуктаў, танных тэлевізараў, халадзільнікаў і г.д.

Савецкім беларускім грамадствам зварухнулі аднак два фактары — катастрофа ў Чарнобылі і магілы ў Курапатах. Цынізм мінскіх правадыроў, якія некалькі тыдняў даказвалі, што аварыя на атамнай электрастанцыі на Украіне не мела ніякага ўплыву на ўмовы жыцця ў Беларусі, узбударажыў нават найбольш даверлівых грамадзян рэспублікі. У чэрвені Зянон Пазьняк і Яўген Шмыгалёў апублікавалі ў тыднёвіку „Літаратура і мастацтва" вялікі артыкул, у якім паказалі тэхналогію сталінскага генацыду. Факты былі больш страшныя, чым ранейшыя абвінавачанні найбольш радыкальных антыкамуністаў. Астанкі дзесяткаў тысяч людзей забітых у 1937-1939 гадах выстраламі ў патыліцу ўражвалі грамадства. У мільёнаў людзей узнікала пытанне: за што?

У суседніх савецкіх рэспубліках натоўпы людзей выходзілі на вуліцы, дамагаліся свабоды і незалежнасці. Ніхто не хацеў жыць у сістэме, якая магла давесці да чарговых Курапатаў, а катам — даваць медалі за добра выкананую працу. У Эстоніі, Літве, Латвіі ўзніклі народныя франты — арганізаваныя сілы, якія сталі прадстаўляць грамадскія і нацыянальныя інтарэсы.

Мартыралог Беларусі не ставіў палітычных мэтаў, імкнучыся толькі высвятліць праўду пра бальшавіцкія злачынствы. Аднак гэтая арганізацыя на працягу кароткага часу стала агульнадзяржаўнай, яе структуры ўзніклі ва ўсіх гарадах Беларусі. Новыя людзі дамагаліся адкрыта ставіць праблемы палітычнага характару. Таму са складу Мартыралога быў выдзелены камі-

[працяг ☞ 4]



*Прэзентацыя „Народнага альбома".*

## Найважнейшая музычная падзея года

Мікола Ваўранюк

***NRM* — найлепшы сёння беларускі рок-гурт, а „Народны альбом", у якім першапланавыя ролі іграюць яго члены — найважнейшая падзея ў беларускай сучаснай музыцы некалькіх апошніх гадоў. Можна было пераканацца ў гэтым у Бельскім доме культуры ў нядзелю 25 кастрычніка. Выступ *NRM* і прэзентацыя „Народнага альбома" падчас *Бардаўскай восені* — найбольш якасны беларускі канцэрт на Беласточчыне на працягу адыходзячага года.**

Чатыры гады таму ў Бельску-Падляшскім Звяз беларускай моладзі сарганізаваў першы фестываль *Бардаўская восень.* Гэта быў свайго роду асколак *Басовішча.*

— Мы зразумелі, што рок-музыканты і барды на адной імпрэзе не сыходзяцца, — гаварыў тадышні старшыня ЗБМ Багдан Сіманенка. — Паколькі Гарадок стаў месцам сустрэч толькі прадстаўнікоў моцнага ўдару, дык паявілася патрэба ў другім спатканні — больш лірычным, пад гітару.

Сёлета і арганізатары *Басовішча,* і *Бардаўскай восені* адкінулі тую ідэю, якая пачала крышталізавацца пару гадамі назад: зрабіць два высакаякасныя маладзёжныя фестывалі, адзін бардаўскай, а другі рок-музыкі. Першыя запрасілі бардаў і гурты, якія выконваюць нейкі мадэрн-фольк. Другія — рокераў.

Барды на сёлетняй *Бардаўскай восені* былі, і то не з горшых: Алесь Камоцкі, Андрэй Мельнікаў, Кася Камоцкая, Сяржук Мінскевіч. Аднак іх спеў быў заглушаны рок-гуртамі, хай сабе тыя толькі мінімальна скарыстоўвалі электрычную моц сваіх інструментаў і гукаўзмацняльнікаў. Алесь Камоцкі спяваў стомлены, проста з дарогі, тое ж Андрэй Мельнікаў, які ў дадатак кудысьці спяшаўся і праспяваў усяго пару песень. Сяржуку Мінскевічу, як ён прахрыпеў у мікрафон, мытнікі на мяжы забралі голас, а новае *Новае неба* Касі Камоцкай змагаецца са сваёй старой веліччу.

Тое ж можна сказаць і пра рок-гурт *Уліс,* лідэр якога, Слава Корань, насілу хоча даказаць, што і ў новым саставе можа не горш іграць і спяваць легендарныя гіты канца 80-х, пачатку 90-х гадоў. Шкада, бо новы *Уліс* варты новых добрых песень, некалькі якіх прэзентаваў у Бельску. У іх не толькі класна гучыць Коранева гітара, але і голас. І не ўзнікаюць непатрэбныя асацыяцыі з мінулым.

Да *Бардаўскай восені* некалькі песень на словы Надзеі Артымовіч, Яна Чыквіна і свае падрыхтаваў Алег Кабзар. Суправаджаў яго невялічкі гурт бельскіх музыкантаў. Песні прыгожыя, асабліва пра „гадзіннік мараў на ратушы", але баюся, што першае сцэнічнае выступленне гурту можа аказацца апошнім. Таксама Вользе Стахвюк з Беластока, з набытай у Менску музычна-акторскай адукацыяй, да выступлення давялося рыхтавацца наспех. Не мае яна ў нас з кім іграць. Шкада, бо вакальныя магчымасці ў яе надзвычай вялікія.

Менскі гурт *Krivi* выступіў на *Бардаўскай восені,* пэўна, толькі таму, што яго члены прымаюць удзел у праекце „Народны альбом". Іх жа ўласны рэ-

[працяг ☞ 5]

## *Без сродкаў на ўтрыманне*

Столькі гадоў чалавек прапрацаваў, а цяпер такая падзяка, — наракае Яўген Міхальчук. — Ад 31 сакавіка я быў без грошай, працы, а нават і дапамогі па беспрацоўю. Зараз я зарэгістраваўся беспрацоўным, але грашовая дапамога мне не належыцца, бо больш чым год ужо не працую. Карысць ад таго такая, што магу бясплатна лячыцца.

[драма ☞ 3]

## *Тады мы пачалі дзейнічаць*

Сёлета ў Мінску ў Архіве найноўшай гісторыі пабачыць свет кніга Сяргея Ёрша, прысвечаная Беларускай незалежніцкай партыі. Яна будзе складацца з успамінаў яе сяброў, з інтэрв'ю, нарысаў, з партыйных дакументаў, многія з якіх яшчэ не друкаваліся. Аўтар прапануе чытачам гутарку з Барысам Рагуляй — адным з заснавальнікаў БНП.

[размова ☞ 4]

## *Гайнаўка, а можа Chojnówka*

У гмінах, якіх значную частку грамадзян складаюць прадстаўнікі нацыянальнай меншасці, адміністрацыя павінна быць гатова працаваць на двух мовах. У працы самаўрадаў дапускаецца ўжыванне мовы меншасці. Раней, аднак, будзе апублікаваны ўрадавы спісак гмін, у якіх будзе дапускацца такая магчымасць.

[праект закона ☞ 5]

## *Цар вярнуўся ў Белавежу*

Анджэй Кэчынскі рашыўся на неверагодную, здавалася б, рэч — наладзіць фотавыстаўку „Царская паляванні ў Белавежы" з архіўных здымкаў Расійскага дзяржаўнага архіва кінафотадакументаў, які знаходзіцца ў Красногорску пад Масквой. Дабіўся ён таго, што архіў пазычыў 51 здымак, якія дагэтуль нідзе не экспанаваліся і не публікаваліся.

[пра фотавыставы ☞ 8]

## *Бульбіна*

Знаёмы афрыканец прывёз мне ў падарунку афрыканскую бульбіну, насеція якой магло б смела пару сямей, бо важыла яна больш трох кілаграмаў. Напамінае ў нечым наш прадаўгаваты кабачок і так жа, упоперак яе рэжуць, падрыхтоўваючы розныя стравы.

[экзотыка ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Правы чалавека ў Беларусі

**(люты — кастрычнік 1998 г.)**

У Беларусі адсутнічае незалежная судовая ўлада.

31 ліпеня 1997 года ў Рэспубліцы Беларусь ліквідаваная свабодная адвакатура. Тыя, хто не ўступіў у падпарадкаваныя дзяржаве калегіі адвакатаў цяпер не маюць права займацца адвакацкай дзейнасцю, а іхнія ліцэнзіі будуць анульваныя Міністэрствам юстыцыі. Прэзідэнцкі дэкрэт № 12 фактычна скасаваў незалежную адвакатуру і ўзмацніў дзяржаўную рэпрэсіўную машыну. Судовыя працэсы ўсё часцей праходзяць за зачыненымі дзвярыма.

30 сакавіка суд Маскоўскага р-на г. Мінска разглядаў хадайніцтва адваката Веры Страмкоўскай і шматлікіх грамадскіх арганізацый аб змяненні меры ўтрымання дэпутату Вярхоўнага Савета 13 склікання Андрэю Клімаву. Працэс праходзіў без абвінавачанага і яго абаронцы. За зачыненымі дзвярыма „правасуддзе" вяршыла „двойка" — суддзя А. Валькові і пракурор А. Лазут — гэтым была парушана Канстытуцыя РБ.

8 ліпеня 1998 г. беларускі юрыст Аляксей Філіпчанка здзейсніў акт самаспалення перад будынкам гарадскога суда ў г. Наваполацку, дзе была спроба міліцыі затрымаць яго па загаду мясцовых уладаў. Юрыста чакаў арышт. А. Філіпчанка выліў на сябе тры літры бензіну і падпаліўся. З цяжкімі апёкамі адвакат быў дастаўлены ў бальніцу.

Атрыманыя апёкі (70 працэнтаў скуранога пакрову) ва ўмовах сучаснай беларускай медыцыны з'яўляюцца несумяшчальнымі з жыццём. 31 жніўня Аляксей Філіпчанка памёр у Віцебскім абласным апёкавым цэнтры. Аляксей Філіпчанка абараняў сваю кліентку, жыхарку Наваполацка — пенсіянерку А. Воранаву, у якой мясцовыя ўлады з дапамогай суда, пракуратуры, міліцыі і нават пажарных хацелі забраць кватэру, якая знаходзілася ў яе прыватнай уласнасці. Усе юрыдычныя сродкі дапамогі — звароты ў пракуратуру і Вярхоўны суд — былі безвыніковымі. Усе іншыя сродкі, нават галадоўка, вынікаў не далі.

Юрыст спаліў сябе, каб звярнуць увагу грамадскасці на парушэнне правоў чалавека ў Беларусі. „Мае дзеянні свядомыя, як юрыст я дзейнічаю асэнсавана", — так сказаў Аляксей Філіпчанка. Спецыялісты, якія гаварылі з Аляксеем Філіпчанкам у апёкавым цэнтры не знайшлі адхіленняў у яго псіхіцы.

*З рапарту Праваабарончага Цэнтра „Вясна-96"*

## Беларусы ў ЗША

— Можна сказаць, што ў беларусаў, якія пражываюць у ЗША падобныя праблемы, як і ў беларусаў Беласточчыны, — гаворыць Яўген Сачко, дырэктар Гайнаўскага белліцэя, які пабываў на 23-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, што праходзіў 5 і 6 верасня 1998 года ў Нью-Брансвіку. — Маладыя адыходзяць ад беларускасці і пачынаюць лічыць сябе амерыканцамі. Гэта было відаць і ў час Сустрэчы, бо маладых было там сапраўды мала.

Падчас нарадаў вяліся дыскусіі ў розных гуртках, абмяркоўвалася палітычная сітуацыя ў Беларусі, сітуацыя беларусаў на эміграцыі, а перад усім у Злучаных Штатах Амерыкі. Удзельнікі Сустрэчы звярталі ўвагу на адносіны паміж старой і маладой хвалямі эміграцыі. Вяліся спрэчкі, ці лічыць увогуле беларусамі рускамоўных грамадзян Беларусі, якія зараз сюды прыязджаюць. Дэлегаты задумваліся, як прыцягнуць да беларускай дзейнасці недзе 680 беларусаў, якія прыедуць паводле правілаў, звязаных з „зялёнай картай". Як прыклад працы з моладдзю ставіліся нядзельныя школы пры цэрквах, у якіх магла б сустракацца моладзь, калі бацькі прыедуць у царкву, бо адна такая школа ўжо дзейнічае. Увогуле культурнае жыццё згуртавана там вакол цэркваў, дзе арганізуюцца спатканні. У час дыскусій прысутны быў таксама і вядомы апазіцыйны дзеяч Зянон Пазьняк, які інфармаваў пра палітычную сітуацыю ў Беларусі.

Прыватна пабываў я яшчэ ў горах, пабачыў вадаспад Ніягара, наведаў Нью-Йорк. Што я заўважыў у першую чаргу, гэта парадак і вялікая пашана для законаў. Эмігранты там вельмі запрацаваныя, кантактаў прыватных мала і часта сусед не ведае суседа. Гэта тычыцца і беларусаў.

**Гутарыў Аляксей Мароз**

## Забіты святар

13 кастрычніка ў лясным масіве пры выездзе з Брэста, за 180 метраў ад трасы Брэст—Мінск, быў знойдзены аўтамабіль „Фольксваген-Вента", які належаў епархіяльнаму сакратару Брэсцкай і Кобрынскай епархіі, настаяцелю Свята-Мікалаеўскай царквы протаіерэю айцу Міхаілу. У салоне машыны знаходзіўся яго труп з 12 нажавымі колатымі ранамі грудзей, галавы і шыі. Сакрапацігадовы Міхаіл Сацюк быў адным з самых паважаных служыцеляў Праваслаўнай царквы Беларусі.

Праваахоўныя органы і іншыя спецыяльныя службы адпрацоўваюць самыя розныя версіі жорсткага забойства. З Мінска ў Брэст тэрмінова прыбыла брыгада вопытных сышчыкаў. Вядома, што апошні раз свяшчэннаслужыцеля бачылі ў 19 гадзін 12 кастрычніка, калі ён ад царквы накіраваўся на сваім аўтамабілі дадому ў вёску Вычулкі, што побач з абласным цэнтрам.

*Голас Радзімы, № 42, 22.10.1998 г.*

<u>Сямёх на стог, а адзін падаваць</u>

## На жаль, гэта пра нас

**Беларусь працягвае перажываць незвычайна сур'ёзны фінансавы крызіс. Узровень дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту ў першым паўгоддзі 1998 года склаў 3,5% ад унутранага валавога прадукту. Гэта аказвае вялікую нагрузку перш за ўсё на рэальны сектар эканомікі, а таксама інфляцыйны націск на нацыянальную эканоміку ў цэлым. Нельга жыць на крэдыт, жыць трэба на сродкі. Аб гэтым гавораць апошнія здарэнні ў эканоміцы Расіі. Таму лепш вучыцца на чужых памылках.**

Адной з прычын такога фінансавага становішча ў рэспубліцы з'яўляюцца празмерна вялікія бюджэтныя расходы: выплата бягучай бюджэтнай зарплаты, грашовае забеспячэнне арміі, праваахоўных органаў, самыя „гарачыя" расходы на ахову здароўя і адукацыю.

Усе людзі гавораць аб тым, што трэба правесці аналіз станоўчых і адмоўных бакоў бюджэту і на гэтай аснове прадпрымаць неабходныя дзеянні дзеля яго збалансавання.

Напрыклад, няцяжка падлічыць, што ў бюджэтнай сферы рэспублікі заняты кожны трэці працоўны. Атрымоўваецца, што астатнія двое ўтрымоўваюць яго і яшчэ чацвярых пенсіянераў і непаўналетніх. Бюджэт, дзе падатковых паступленняў хапае толькі на тое, каб плаціць зарплату бюджэтнікам і рабіць толькі крытычныя расходы, ужо не з'яўляецца бюджэтам у поўным значэнні гэтага слова. Як у такім бюджэце можна знайсці грошы на інвестыцыі, на падтрымку народнай гаспадаркі, за чый кошт гэта рабіць? Калі толькі за кошт эмісіі Нацыянальнага банка, то гэта шлях да далейшай інфляцыі.

Адміністрацыйная рэформа — гэта тое, што сёння даспела і зверху, і знізу. Бюджэтны сектар неабходна скарачаць, але скарачаць не агульна. Разумнае скарачэнне работнікаў бюджэтнай сферы зменшыць магчымасць палітычнага націску гэтых людзей. Першае, што трэба зрабіць, — гэта акрэсліць, колькі ў гэтай сферы працуе пенсіянераў. Скарачэнне можна праводзіць у двух этапах. Па-першае, трэба папярэдзіць іх за 2-3 месяцы аб звальненні, многія за гэты час змогуць знайсці працу ў прыватных і іншых структурах. Апрача таго, неабходна даць льготы для тых прадпрыемстваў, якія будуць прымаць гэтых людзей на працу; аналагічна можна зрабіць і з іншымі работнікамі.

Калі не будзе паступовага скарачэння колькасці занятых у бюджэтнай сферы сёння, то заўтра ўсё роўна прыйдзецца гэта рабіць. Толькі напэўна больш рэзка, не маючы часу прымяняць кампенсацыйныя меры. Несумненна будзе вялікі супраціў апарату арміі чыноўнікаў, крыніцай дабрабыту якіх з'яўляецца ўлада, права на выдачу шматлікіх патэнтаў, ліцэнзій і таму падобнае.

Але і ёсць другі бок медаля. Апрача супраціўлення апарату, будзе каласальная падтрымка рэформы з боку працоўнага народа, цывілізаванага бізнесу, усялякага роду дробных прадпрымальнікаў, якія часцей за ўсё становяцца аб'ектам „пільнай" увагі чыноўнікаў.

Рэфармаванне бюджэтнай сферы неабходна праводзіць ва ўзаемасувязі з рэфармаваннем падатковага заканадаўства, якое далёкае ў нас ад аптымальнага. Доказ гэтаму — пастаянныя падатковыя эксперыменты. (...) Спроба дзяржавы рашаць эканамічныя праблемы нястачы грашовых сродкаў шляхам павелічэння падатковага прэса на прадпрыемствы скоўваюць перш за ўсё вытворчую актыўнасць. Такое становішча можна прывесці ў рэшце рэшт да калапсу ўсёй эканомікі: бо чым больш прадукцыі выпускае прадпрыемства, тым менш гэта яму выгадна.

Інакш кажучы, рэальная эканоміка ў нас не аддае грошай больш, чым здольна аддаць, яна ўжо выпрацавала да гэтага стойкі імунітэт. Адгэтуль вывад — радыкальна павялічыць аб'ём даходаў нельга. Таму неабходна правесці рэвізію таго, што ўжо маецца, і ў першую чаргу — рэарганізацыю бюджэтных фондаў. (...)

Неабходная, на мой погляд, рэвізія падатку на дабаўленую вартасць, павышэнне акцызных ставак на спіртныя напоі, тытунёвыя вырабы, бензін і дызельнае паліва. Нягледзячы на незадаволенасць, якую такая мера можа выклікаць у паасобных груп спажыўцоў. Ці ж гэта лагічна, што не могучы выканаць сваіх абавязацельстваў перад найбольш малазабяспечанымі грамадзянамі, мы прадаўжаем утрымоўваць рэкордна нізкія ва Усходняй Еўропе цэны на пералічаныя тавары, якія не адносяцца да прадметаў першай неабходнасці.

Пры гэтым мы не павінны забываць, што не пазбавіліся цэлага спісу льгот і прывілеяў, устаноўленых законамі і пастановамі, але не падмацаванымі рэальнай фінансавай адказнасцю бюджэту. Між тым іх агульная сума, уключаючы падатковыя льготы, з'ядае пятую часць даходаў бюджэту. У выніку або ўзнікае новая бюджэтная задоўжанасць, або дзяржава ўступае ў такія адносіны са сваімі контрагентамі, калі, напрыклад, транспартнікі, якія штогод перавозяць цэлую армію карыстаючыхся льготамі чыноўнікаў і супрацоўнікаў праваахоўных органаў, не атрымоўваюць адэкватнай кампенсацыі ад Міністэрства фінансаў.

**Яўген Дайнека**
**кандыдат эканамічных навук, дацэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі**

*Рэспубліка, № 256-257, 23.10.1998 г.*

# Новая рада

Выбары ў мясцовыя самаўрады ўжо за намі. У Чаромсе на грамадскай сцэне паявілася аж дзевяць новых радных (на агульны лік 18). Узрост чаромхаўскіх дэпутатаў разнародны — ад 32 да 71 гадоў. Самай маладой раднай з'яўляецца Ева Палькоўская, а сеніёркай — Вера Маркевіч. Чаромхаўскі электарат паставіў на маладыя кадры. Ці апраўдае ён давер выбаршчыкаў — пакажа час.

Аўторак 27 кастрычніка г.г. запісаўся ў гісторыі чыгуначнага пасёлка як дзень сфарміравання новай Рады гміны. Інаўгурацыйная сесія адбылася ў мясцовым асяродку культуры ў прысутнасці запрошаных гасцей і цікавых гэтай падзеі жыхароў.

Гадзіна 14⁰⁰. З магнітафона панесліся гукі дзяржаўнага гімна. Затым выступіў старшыня Рады гміны папярэдняга склікання Сяргей Смык, які адкрыў І сесію Рады гміны і запрапанаваў парадак пасяджэння. Пасля старшыня Гміннай выбарчай камісіі Валянціна Шыманюк уручыла нававыбраным радным пасведчанні аб выбары. Першую частку сесіі завяршыла цырымонія прысягі.

Наступіў час выбараў. Падліковая камісія прыступіла да працы. На старшыню Рады гміны радныя прапанавалі: Сяргея Смыка, Пятра Раманюка і Анатоля Анішчука. У час галасавання перамог Сяргей Смык (11 галасоў на агульны лік 18). Намеснікам стала Ева Палькоўская (перамагла Дар'юша Бартошука). Пасля пачаліся выбары войта гміны.

Старшыня Рады гміны Сяргей Смык заявіў: „Згодна закону аб самаўрадах, войт можа быць выбраны з-па-за тэрыторыі гміны". Выступіў Пятро Раманюк: „Прапаную на войта спадара Міхася Врублеўскага. Праверыўся ён у працы як сапраўдны гаспадар і арганізатар. Яго заслугі кожнаму з нас вядомы. У Чаромсе няма яму роўнага." — „Гэту асобу не трэба два разы рэкамендаваць, — падтрымаў свайго прамоўцу радны Анатоль Жук. — Хачу толькі дадаць, што спадар Врублеўскі паказаў, як трэба супрацоўнічаць з Радай гміны. Неадначы рашаўся на нялёгкі кампраміс. А ўсё — дзеля грамадскай справы". Падобна выказваўся і Анатоль Анішчук. А радная з Волькі-Тэрахоўскай Галена Назарук успомніла: „Пасля смерці Мікалая Куліка мы шукалі адпаведнага кандыдата на пасаду войта на тэрыторыі Чаромхаўскай гміны, ды не знайшоўся такі. 10 гадоў таму Рада гміны даверыла кіраванне гмінай спадару Врублеўскаму. Ён апраўдаў наш давер. Дык чаму ж зараз маем яго адкінуць? Гэта было б негуманітарна рабіць крыўду чалавеку, які заслугоўвае нашай пашаны".

У выніку закрытага галасавання Міхась Врублеўскі паўторна выбіраецца войтам. Хачу пры гэтым адзначыць, што не абышлося ў час выбараў без сутычкі паміж раднымі Анатолем Анішчуком і Юркам Шыкулай. Гэты апошні папрасіў, каб войт выказаўся наконт планаў і рэалізацыі пастулатаў выбаршчыкаў у галіне развіцця асветы, службы аховы здароўя і скарачэння беспрацоўя (арганізаванне новых месц працы). Супраць такога ходу справы быў Анатоль Анішчук. На яго думку, трэба трымацца прынятай павесткі дня, г.зн. выбраць войта, а пасля ставіць яму пытанні. Бурная дыскусія ў той справе закончылася кампрамісам.

Пасля заканчэння выбараў і зачытання пратакола старшыні падліковай камісіі Анатоля Жука (на войта Врублеўскага галасавалі радныя аднагалосна) зала загудзела бурнымі апладысментамі, затым пасыпаліся віншаванні. У адказ войт прамовіў: „Я цешуся аказаным мне даверам. Хваляюся вельмі, бо не спадзяваўся. Як наладзіцца далейшае наша супрацоўніцтва, гэта толькі ад вас, паважаныя радныя, залежыць. Я з'яўляюся выканаўцам рашэнняў Рады. Хачу прытым адзначыць, што не абыдзецца, вядома, без спрэчак, калі справа будзе тычыцца грошай. І, магчыма, пачнуцца яны з заўтрашняга дня, калі трэба будзе прызначыць каля 1 мільярда 200 мільёнаў злотых на прыстасаванне сацыяльнага будынка прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу на амбулаторыю. Спадзяюся на ўзаемнае зразуменне".

Згода будуе, нязгода — разбурае. Варта пра гэта памятаць, сябры радныя!

**Уладзімір Сідарук**

# Без сродкаў на ўтрыманне

— 58 злотых у месяц сямейнай дапамогі на дзяцей — гэта адзіныя фінансавыя сродкі, якія мы атрымлівалі на працягу года, ад чэрвеня 1997 года да чэрвеня 1998 года, — кажа Міраслава Міхальчук, зараз працаўніца Гарадскога асяродка грамадскай дапамогі. — А трэба ж было пражыць і пракарміць сям'ю з чатырох асоб.

У сакавіку 1997 года Яўген Міхальчук фармальна быў яшчэ пажарнікам Дзяржаўнай пажарнай каманды, але працаваў у майстэрні Прадпрыемства чыгуначнага саставу ў Чаромсе. Калі даведаўся, што можна пасля пятнаццацігадовай пажарніцкай працы ісці на пенсію, сабраў адпаведныя дакументы і звярнуўся да Галоўнага каменданта Дзяржаўнай пажарнай каманды ў Варшаве з прашэннем скасаваць дамову аб працы са згоды абодвух бакоў. І тады зваліліся клопаты.

— Усё пачалося яшчэ ў 1992 годзе, калі ўсе пажарнікі з Прафесійнай пажарнай каманды пры Лакаматыўным дэпо ў Чаромсе згадзіліся перайсці ў Дзяржаўную пажарную каманду па новых правілах. Працавала тады нас каля 30 асоб і пераход адбыўся „аўтаматычна", — пачынае расказ Яўген Міхальчук. — Да 1994 года я фактычна працаваў пажарнікам, а пасля перайшоў праваць у майстэрню, хаця з пасады пажарніка ніхто мяне не звольніў. У сакавіку 1997 года засталося нас там чатырох пажарнікаў, якія выпрашылі пайсці на пенсію. 31 сакавіка 1997 года скасавалі мы дамовы аб працы, доўга запаўнялі пенсіённыя дакументы, якія кружылі між ваяводствам і раёнам і толькі пасля года, бо 24 сакавіка 1998 года ў пенсіі адмовілі. Растлумачылі і мне, што ў мяне толькі 11 гадоў і 4 месяцы пажарніцкага стажу. А калі ж я працаваў у майстэрні, ніхто мяне з паста пажарніка не адклікаў. Зараз мы далі апеляцыю ў ваяводскі суд у Варшаве і чакаем у чарзе судовага разбору, але наўрад ці адбудзецца ён у гэтым годзе.

— Калі ў 1992 годзе была створана Дзяржаўная пажарная каманда, з самага пачатку і аж да спынення дамовы аб працы Яўген Міхальчук з'яўляўся пажарнікам. Паводле законаў павінен ён атрымаць пенсію, — кажа спадар Міраслаў Навіцкі, прафсаюзны дзеяч з Чаромхі, зараз пенсіянер.

— Столькі гадоў чалавек прапрацаваў, а цяпер такая падзяка, — наракае Яўген Міхальчук. — Ад 31 сакавіка я быў без грошай, працы, а нават і дапамогі па беспрацоўі. Зараз, калі адмовілі мне ў пенсіі і трэба чакаць суда, я зарэгістраваўся беспрацоўным, але дапамога па беспрацоўі не належыцца, бо больш чым год ужо не працую. Карысць ад таго такая, што магу бясплатна лячыцца.

— Я раней працавала ў дзіцячых яслях, якія падлягалі аддзелу аховы здароўя ў Гайнаўцы. Пасля, калі перайшлі яны ў распараджэнне самаўрада, адбыліся кадравыя перастаноўкі і мяне ў канцы 1994 года звольнілі. Дома прасядзела я два гады і ў верасні 1996 года пайшла працаваць у новую бальніцу, бо па прафесіі я медыцынская сястра, — расказвае Міраслава Міхальчук. — Але працавала я там толькі 10 месяцаў. З 15-гадовым стажам працы я зноў стала беспрацоўнай. Поўнага года я не працавала, так што і дапамогі па беспрацоўі не магу атрымаць. Пасля, як я ўжо згадвала, атрымлівалі толькі дапамогу на дзяцей. Дачка вучыцца ў падставовай школе, а сын — у сярэдняй. Зараз пачала я працаваць у Гарадскім асяродку грамадскай дапамогі, але там прымаюць на год і пазней таксама можа быць па-рознаму. Маю надзею, што муж атрымае пенсію, бо паводле абавязваючых законаў, яна ж яму належыцца.

**Аляксей Мароз**

# Перадвыбарчыя абяцанні

Помню, як перад апошнімі парламенцкімі выбарамі былы прэм'ер Вальдэмар Паўляк проста крычаў, што трэба каб члены добраахвотных пажарных каманд сталі ветэранамі і абяцаў, што за гэта будзе стаяць. Прапаў Паўляк, прапалі і пажарныя ветэраны. У ПСЛ стаў узначальваць новы лідэр — Яраслаў Каліноўскі. Абяцаў ён, што дапаможа ўсім земляробам, якія пацярпелі ад камуністычнай улады ў 1950-х гадах.

Не ўдалося Паўляку з ветэранамі, відаць, і Каліноўскі не даб'ецца вяртання забранай камуністычнымі ўладамі зямлі. У пяцідзесятыя гады, калі селянін не мог заплаціць падаткаў, яму забіралі зямлю, раскулачвалі. У майго прыяцеля забралі 8,50 гектараў зямлі за тое толькі, што ён не змог заплаціць падатку. А ён, каб быў меншы падатак, вымушаны быў засадзіць зямлю лесам. Аднак Павятовы суд у Беластоку, які не глядзеў на тое, што селянін са сваімі малымі дзецьмі засадзіў лес, забраў зямлю згодна з прапановай войта ў Заблудаве, ягонага аднавяскоўца. Цяпер не жыве ані войт, ані ўласнік тае зямлі, толькі дзеці хочуць атрымаць спадчыну па бацьках. Наўрад ці гэта ім удасца.

**Мікалай Лук'янюк**

# А што ў Беластоку?

Як сталы чытач тыднёвіка я ўважліва сачыў за самаўрадавымі выбарамі. „Ніва" ў сваіх апошніх нумарах успомніла, што ў Гайнаўцы і Бельску перамаглі левыя сілы, на спісках якіх балаціраваліся беларускія прадстаўнікі. А што ў самім горадзе Беластоку? З „Нівы" можна было даведацца, што ў сталіцы ваяводства перамагла салідарніцкая АВС. Хто з беларускага асяроддзя будзе прадстаўніком у беластоцкім самаўрадзе?

**Юстын Пракаповіч, Беласток**

**Ад рэдакцыі:** Мы не друкавалі спісаў радных, а толькі паведамлялі пра вынікі выбарчых партыйных кааліцый. Праваслаўныя і беларускія кандыдаты з Беластока балаціраваліся на спісках СЛД (гл. рэкламны матэрыял у 40 н-ры), а з артыкула „Чыя перамога?" (у 43 н-ры) можна было даведацца, што „8 месц у новай гарадской радзе маюць праваслаўныя" — значыць, перамаглі ўсе кандыдаты. Іх прозвішчы знойдзеце ў падзяцы, якая друкуецца побач.

# Усё баліць

У Беластоку найбольш любяць размовы пра хваробы. Зайздрошчу свайму рэдакцыйнаму калегу, які ў аўтобусе н-р 5 падслухаў гутарку пра літаратуру ды неадкладна перадаў яе змест чытачам „Нівы".

Ад пяці гадоў езджу на аўтобусе н-р 5 і безупынна чую адну адвечную беластоцкую тэму-праблему: хваробы.

*— Ой пані, я хора-умераёнца. Усё баліць, галава трашчыць, сярэдзіна ные, ногі распухлыя.*

*— І я, пані, чуць жыву, ледзь на нагах стаю...*

Et caetera.

Час ад часу размовы пра хваробы пераходзяць у кулінарныя парады. Але і яны нярэдка ўліваюцца ў рэчышча непераможнай тэмы.

— Тыя катлеткі і праўда, смачныя, але здароўя для яды няма, страўнік жаранага не прымае, — пачуеце ў канцы канцоў.

— Gdy spytam swoich znajomych z Białegostoku, co u nich słychać, to zwykle zaczynają mi mówić o swoich chorobach, — сказаў нядаўна журналістцы Радыё Беласток сусветнай вядомасці беластачанін, дырыжор Ежы Максымюк. — To wtedy ich obstawiam. Radzę, by najpierw o swoich sukcesach i radościach opowiadali!

Лёгка сказаць сусветнаму чалавеку „najpierw o sukcesach" — пакрыўдзіцца беластачанін ды пачне пералічваць свае жыццёвыя пройгрышы, няўдачы, каб заключыць размовай пра хваробы. А калі такому пачнеш пярэчыць, хваліць яго, напамінаць пра яго шчаслівую сямейку, пра новы самаход, пра добрую працу ці свежае паветра, цябе зненавідзяць!

— *Соль табе, фафуло, у вочы, каб мяне не сурочыў,* — сыкнуць ды пачнуць лямантаваць:

— *На маё дабро замахнуўся! На маё здароўе палакоміўся, на шчасце сямейкі! А йдзі ты на сухі лес! На расстайныя дарогі! Цьфу!*

— Ну добра, добра, — палагодзіце свой голас, бо з магіяй няма жартаў. — Мне ж таксама ўсё-ўсютка баліць!

І пачынаеце разносіць у сваіх гутарках усялякія балячкі, інфекцыі, сямейныя хваробы здавён-даўна. Бо няма большай прыемнасці ў Беластоку, як падзяліцца са сваім знаёмым самым дарагім: хваробамі.

**Ева Сцепанюк**

# Падзяка

***Сардэчна дзякуем нашым выбаршчыкам за такую вялікую падтрымку, аказаную нам на самаўрадавых выбарах 11 кастрычніка 1998 года.***

*Пётр Бурак, Віталій Бонда, Пятро Крук, Славамір Назарук, Марк Масальскі, Яраслаў Матвяюк, Антон Мірановіч, Рыгор Падляскі — радныя Гарадской рады Беластока ды Яўген Чыквін і Ян Зенюк — радныя Самаўрадавага сейміка Падляшскага ваяводства.*

**Сёлета ў Мінску ў Архіве найноўшай гісторыі пабачыць свет мая кніга, прысвечаная Беларускай незалежніцкай партыі. Яна будзе складацца з успамінаў яе сяброў, з інтэрв'ю, нарысаў, з партыйных дакументаў, многія з якіх яшчэ не друкаваліся. Прапаную адзін з матэрыялаў кнігі „Вяртанне БНП".**

Сяргей Ёрш

# „Тады мы пачалі дзейнічаць..."

Трэцяга ліпеня 1997 году ў Віленскім аэрапорце мы сустракалі Барыса Рагулю. Чакаючы свайго былога камандзіра, пастроілася невялікая група ветэранаў — вайскоўцаў Наваградскага беларускага эскадрона, батальёна „Дальвіц", сяброў Беларускай незалежніцкай партыі. Яны прыехалі з Любчы, Слоніма, Баранавіч, Вільні... Рапартаваў і чытаў адмыслова напісаны верш „Швадрон, зважай!" былы афіцэр Уладзімір Сіўко, абдымаў свайго былога партыйнага кіраўніка Андрэй Вайтовіч...

А пасля, на кватэры Кастуся Шышэі, адбылася сяброўская вячэра „рагуляўцаў". Ім было што ўспомніць, абмеркаваць, расказаць... Шмат гаварылі пра Незалежніцкую партыю і яе кіраўніка Усевалада Родзьку, які загінуў на бальшавіцкай шыбеніцы. Задаў некалькі пытанняў Барысу Рагулі і я.

***— Сп. Барыс, калі Вы ўпершыню пачулі пра БНП?***

— Фактычна, дзесьці ўжо ў красавіку 1942 года... Пачалося ўсё з таго, што немцы запрапанавалі мне паехаць у Нямеччыну. Яны не ведалі, што я быў у іх у палоне. Між іншым, ніхто ў Наваградку не выдаў немцам, што я ўцёк з палону. А калі б хто выдаў — вярнулі б у лагер...

Я добра ведаў нямецкую мову, працаваў перакладчыкам у камісарыяце. Здабыў іх досыць добрую апінію. Гэта дало мне магчымасць дапамагчы многім беларусам, якім пагражалі расстрэлы праз даносы палякаў-перакладчыкаў. Нам удалося пераняць у свае рукі адміністрацыю. Апанавалі мы сваімі людзьмі і камісарыят. А вось паліцыя засталася ў польскіх руках і яна перакупіла польскімі прастытуткамі жандармерыю. Яны мелі такую сістэму, якую і мы пасля выкарысталі ў адносінах да Наваградскага СД.

У Нямеччыне мне было важна пагледзець, як маюцца тыя людзі, якія паехалі туды на работу. Я зайшоў у гэтыя лагеры ўсходніх работнікаў, называныя „ОСТ". Я паглядзеў, што гэта проста канцлагер цяжкай фізічнай працы, дзе людзі галадалі. Беларусы насілі знак „Ост", як жыды насілі „Зорку Давіда". Аб'ехаў некалькі лагераў і ўжо даспяваў у мяне план, што калі вярнуся дадому, забаронім усякі „добраахвотны" выезд у Нямеччыну. Калі я вярнуўся ў Наваградак, сабраў у семінарыі хлопцаў і кажу: „Хлопцы, вы едзеце на канікулы. Перадавайце, каб ніхто з вёсак на работы не ехаў..."

Тады і паўстала востра гэтае пытанне. Немцы абсалютна не апраўдалі нашага даверу. Павінна была быць Самаахова, але яны не далі зброі. Трэба было шукаць нейкага іншага выхаду. Я спаткаўся тады з Мішкам Рагуляй... Але тут немцы даведаліся пра вынік маёй паездкі і звольнілі мяне з працы перакладчыка, і я ўжо не меў больш кантактаў з наваградскім камісарам...

Тады мы пачалі дзейнічаць. Да мяне прыехаў Мішка Рагуля і кажа: „Барыс, нам трэба арганізаваць нелегальную партыю". Ці Родзька быў пачыльнальнікам, ці Гадлеўскі, мы не ведалі. Фактычна, мяне ўцягнулі ў гэта Родзька і Мішка Рагуля. Яны сказалі, што арганізацыйны з'езд будзе ў пачатку чэрвеня 1942 года ў Мінску, у кватэры шэфа паліцыі Саковіча. Я ведаў яго, як пазітыўнага беларуса. Я спатыкаўся з ім пару разоў у Менску.

***— Хто быў на той нарадзе?***

— На кватэры Саковіча быў я, Мішка Рагуля, Родзька, Адамовіч, Шкялёнак (у пазнейшы час першы намеснік Астроўскага)... Адамовіч, як дазнаўся пра што гутарка, выйшаў. Кажа: „Я ўжо адседзеў у савецкай турме досыць і больш там не хачу быць". Нас там было сем чалавек. Родзька меў гатовую праграму беларускай нелегальнай партыі. Мэтай яе было паказаць, што беларусы не ёсьць ані прасавецкія, ані пранямецкія, а прабеларускія. Выразшылі выдаваць падпольны бюлетэнь...

***— Шкялёнак увайшоў у Цэнтральны Камітэт БНП?***

— Так. Ён фактычна вёў аддзел вонкавай палітыкі. Шкялёнак быў адным з найлепшых ідэолагаў партыі. Акрамя таго, ён быў таксама вельмі добрым палітыкам, які прадбачыў у перадапошнім „Бюлетэні БНП" падзел Нямеччыны на ўсходнюю і заходнюю часткі. І ён заклікаў, калі хто выязджае, каб выязджалі як найдалей на захад, каб не трапіць пад савецкую акупацыю. Была думка, што альянты, пасля перамогі над Нямеччынай, павернуць на ўсход. Ён кажа: „Тыя, хто так думае, не ведаюць дэмакратыі. У дэмакратыі, каб змяніць прыяцеля на ворага, трэба шмат часу, гадоў, каб змяніць публічную апінію. Бо публічная апінія вырашае палітыку дзяржавы". Ён меў рацыю. Амерыканцы не маглі сказаць, што саветы ўжо не прыяцелі, а вораг Амерыкі. Яны не маглі павярнуць зброі, калі б нават і хацелі... Ён прадбачыў правільна. Прадбачыў, што трэба рыхтавацца на доўгае выгнанне. У той час, калі ўсе мы думалі, што вось год-два і вернемся назад...

***— Хто яшчэ ўвайшоў у ЦК?***

— Я быў у ЦК (псеўда „Менскі"), Мішка Рагуля, Родзька, Саковіч. Магчыма былі і іншыя сябры ЦК, але гэтага я не ведаю. Магчыма, што Родзька меў і другую групу людзей. Бо ведаеце, злавілі аднаго, другога і ўсё... Была ў нас сістэма „пяцёрак". Іх ствараў кожны з сяброў ЦК, а завербаваныя сябры арганізоўвалі свае „пяцёркі".

Фактычна, наша акцыя заключалася ў тым, каб падрыхтаваць і захаваць гэтую падпольную сетку, нават на той выпадак, калі вернецца савецкая акупацыя. Родзька мала ведаў савецкую сістэму, але спадзяваўся, што падпольная сетка пад саветамі ўтрымаецца. Ён пакінуў людзей ва ўсходняй Беларусі: у Віцебску, на Магілёўшчыне. Родзька пакінуў там сетку. Але я не думаю, што гэтая сетка ўтрымалася. Пасля перамогі Савецкага Саюза многа людзей засталося там, а што з імі сталася пасля, мы не ведаем...

***— У адным з інтэрв'ю Вы ўспаміналі пра паўстанне, якое рыхтаваў Родзька ў Менску напрыканцы чэрвеня 1944 года...***

— Сапраўды, у Родзькі быў план путчу ў Менску падчас Другога Усебеларускага кангрэса. Асноўнай сілай мяркуемага паўстання мусіў стаць мой батальён, што знаходзіўся пад Докшыцамі. Нам павінны былі падаць эшалон, каб мы пераехалі ў Мінск. Там сталі б галоўнай сілай аховы кангрэса. Планавалі абвясціць незалежную Беларускую Народную Рэспубліку.

Але эшалона немцы не далі. Магчыма, нешта яны пранюхалі. Калі цягнік ужо падалі, дык у Мінск ехаць было запозна і мы паехалі ў Наваградак. Ці не была гэта мая памылка? Ці трэба было весці батальён дахаты? Бо там ён моцна парадзеў... Канешне, хлопцы хацелі вярнуцца ў родныя мясціны, да сваіх сем'яў. Так я і зрабіў. Бог рассудзіць, ці правільна я паступіў.

У Наваградак мне Родзька праз нямецкую тайную пошту даслаў тэлеграму. У ёй ён намякаў, што будзе створаны беларускі батальён („Дальвіц"). Паведаміў, што будзе чакаць мяне ў Гродне.

У Гродне мы спаткаліся. Родзька прапанаваў мне працаваць у батальёне. Я паставіў умову, што дам згоду толькі ў тым выпадку, калі ствараемы батальён будзе выкарыстаны толькі тады, калі фронт ізноў пойдзе на ўсход (немцы), або калі пачнецца амерыканска-савецкі канфлікт. Але толькі не скарыстоўваць яго ў існуючай сітуацыі.

Родзька пагадзіўся з гэтым. Магчыма, ён ужо тады думаў зрабіць інакш — Родзька вельмі хацеў арганізаваць партызанку і падполле пад саветамі. Але ён не ведаў гэтых саветаў. Ён хацеў, каб, калі пачнуцца нейкія падзеі, на Беларусі ўжо былі гатовыя людзі, структуры. Ён яшчэ мне сказаў так: „Займайся вайсковай падрыхтоўкай, а я буду — палітычнай".

Аднак усё атрымалася трохі інакш. Каб разведаць сітуацыю на Бацькаўшчыне, паслаў я Андрэя Вайтовіча... А пасля мне давялося ўцякаць у Берлін. Справа ў тым, што я заўсёды „лез на ражон", у адкрытую змагаўся з немцамі, казаў праўду. А Родзька быў больш лагодны, паказваў „лаяльнасць". Ён хацеў усіх перахітрыць... У Берліне я спрабаваў дабіцца, каб „Дальвіц" перакінулі на захад, але было ўжо запозна...

**Запісаў Сяргей Ёрш, Слонім**

# Юбілей Фронту

[**1** ☞ *працяг*]

тэт з 34 асоб, які меў арганізаваць Беларускі народны фронт „Адраджэнне". Старшынёй камітэта стаў Зянон Пазьняк, а яго намеснікам — вядомы пісьменнік Васіль Быкаў. У чэрвені 1989 г. у Вільні адбыўся І З'езд Фронту, які першапланавай мэтай палічыў дзейнасць у карысць адраджэння беларускай нацыі. Грамадства Беларусі было найбольш саветызаванае ўва ўсім Савецкім Саюзе: патрацціла сваю мову, нацыянальную годнасць і гістарычную памяць. Дзеячы Фронту хацелі, аднак, адрадзіць усё тое, што знішчалася дзесяцігоддзямі, на працягу некалькіх гадоў, маючы прытым супраць сябе арганізаваны апарат камуністычнай партыі, сотні тысяч яе членаў, якім лозунгі арганізацыі Пазьняка гучалі як абвінавачанне ў здрадзе народа і Бацькаўшчыны.

Падзеі, якія праходзілі ў Савецкім Саюзе ў 1990 г., спрыялі рэалізацыі асноўных прапаноў БНФ. Падчас парламенцкіх выбараў у сакавіку г.г. апазіцыя, якая прадстаўляла дэмакратычныя сілы, упершыню атрымала месца ў Вярхоўным Савеце. У ліпені гэты дамінаваны камуністамі парламент аб'явіў аб суверэнітэце Савецкай Беларусі і прыняў пастанову, якая гаварыла, што адзінай дзяржаўнай мовай на тэрыторыі рэспублікі з'яўляецца беларуская. Пад ціскам вонкавых працэсаў Беларусь хутка ішла ў напрамку дэмакратычнай краіны. Камуністы пакідалі сваю любімую партыю і шукалі месца ў новастворaных арганізацыях. Большасць членаў Фронту ў 1991 г. складалі таксама камуністы. На мітынгі арганізаваныя БНФам прыходзілі тысячы людзей. На жаль, усё канчалася гаварыльняй.

Лідэры Фронту звярталіся да народа на зусім яму незразумелай мове. Гаварылі пра дэмакратыю, свабоду, прыватную ўласнасць, карупцыю сярод наменклатуршчыкаў, але савецкі чалавек нічога з гэтага не разумеў. Бачыў, што разам з новымі партыямі, дэмакратыяй і свабодай слова з'явіліся недахоп тавараў, высокія цэны, невялікая плата і карупцыя. Усё навокал стала яму незразумелым, варожым. Для двух мільёнаў грамадзян, якія ганарыліся званнем ветэранаў, неўспрымальным было названне савецкай сістэмы на Беларусі акупацыйнай. Яны змагаліся за Сталіна і Савецкі Саюз як за сваю Бацькаўшчыну. Уся легенда іхняга жыцця аснаваная была на філасофіі слушнасці савецкага бачання свету. Беларуская нацыянальная ідэалогія, якая прапагандавалася Фронтам, успрымалася імі варожа.

Найбольшым грэхам БНФ быў, аднак, недахоп рашучасці пасля няўдалага путчу Янаева ў Маскве ў жніўні 1991 г. Беларускія камуністы, якія падтрымалі загаворшчыкаў, баяліся, што пераможцы з Масквы, так як і раней, прышлюць карныя экспедыцыі. У страху здавалі ўсё, гатовы былі аддаць нават уладу, прагаласавалі за поўную незалежнасць краіны, прынялі „Пагоню" і бел-чырвона-белы сцяг у якасці сімвалаў беларускай дзяржаўнасці. Ні Фронт, ні ніхто іншы не паспрабаваў толькі пераняць ад іх уладу. Пасля палітычны тэатр Беларусі патрабаваў дзеячаў БНФ выключна ў якасці статыстаў. Камуністычная прапаганда прадстаўляла фронтаўцаў як нацыяналістаў, фашыстаў, ворагаў Расіі, агентаў заходніх разведак, гатовых за долары выклікаць новую вайну. Адсутнасць эластычнасці ў палітыцы лідэраў Фронту вяла гэтую арганізацыю ад пройгрышу да пройгрышу.

Пасля прыходу да ўлады Лукашэнкі БНФ стаў для рэжыму ўвасабленнем зла, міфічнага ворага, з якім трэба змагацца ў кожным месцы і ўсялякімі сродкамі. Арганізацыя, кіраваная Пазьняком, была зусім непадрыхтаванай да дзейнасці ва ўмовах дыктатуры. Супраць дэмагогіі прабавала ставіць рацыянальныя аргументы, не маючы прытым тэхнічных сродкаў для свае прапаганды. Пасля выезду Пазьняка з Беларусі ў 1996 г. у Фронце не хапіла лідэра з адпаведным аўтарытэтам. Як дэкарацыя да дыктатуры, БНФ дачакаўся юбілею дзесяцігоддзя свайго існавання. Часам складаецца ўражанне, што Лукашэнка толькі таму пераносіць гэтую арганізацыю, каб мець каго час ад часу абвінавачваць у чарговай спробе дзяржаўнага пераварота ці замаху на сваё жыццё. Але не такія мэты ставілі сабе арганізатары Фронту ў 1989 г.

**Яўген Міранович**

# Найважнейшая музычная падзея года


Вячаслаў Корань і Кася Камоцкая. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

[1 ☞ працяг]
пертуар — фальклор у новай, праўда, арыгінальнай аранжыроўцы, ніяк не стасаваўся з ідэяй фестывалю.

Ды ці наогул яшчэ што засталося ад тае першапачатковае ідэі: папулярызаваць беларускую аўтарскую песню, вышукоўваць новыя таленты і знаёміць публіку з бардамі ўжо вядомымі ў Беларусі? На сёлетнюю *Бардаўскую восень* нехта на даехаў, некага арганізатары не запрасілі, а пра новых бардаў наўрад ці яны чулі, хоць менскія сябры даказвалі, што ў іх аўтарская песня ў апошні час працвітае.

Цікава, што калі *Басовішча* дае імпульс усё новым рок-гуртам спяваць па-беларуску, дык пасля чатырох выпускаў *Бардаўскай восені* не паявіўся на Беласточчыне ніводзін бард (Вольга Стахвюк і Алег Кабзар, хаця ўжо нашы, але ўсё-ткі свае мастацтва фармавалі яшчэ ў Вялікай Беларусі), а тыя, што былі, дзесьці прапалі, у чым, зрэшты, віна арганізатараў *Бардаўскай восені* малая. Але, адна да аднае і можна назбіраць шмат прычынаў, каб напісаць пра крызіс фестывалю. Але...

Але акустычны канцэрт *NRM* быў чыстай асалодай. Неабмежаваныя вакальныя магчымасці Лявона Вольскага, віртуознасць і зладжанасць яго сяброў інструменталістаў — Піт Паўлаў (сола-гітара), Юрась Ляўкоў (бас-гітара) і Алег Дземідовіч (бубны), якія, калі трэба, умеюць і падпець, — робяць *NRM* бясспрэчна найлепшым беларускім рок-гуртом апошніх гадоў. Інтэлігентныя і высокамастацкія тэксты пра безнадзейна-шэрую беларускую рэчаіснасць, у якой нават не сняцца каляровыя сны, пра „маю зямлю", што вечна „ў сьнягох ляжыць", пра падземных жыхароў, якім „ніколі ня ўзыйдзе сонца" добра гучаць нават без дапамогі шматвольтавай апаратуры.

*NRM* на біс выйшаў толькі раз, таму што наперадзе ў іх быў яшчэ звышгадзінны канцэрт. Ігралі яны першапланавыя ролі ў супольным музычным праекце, які завецца „Народным альбомам" і які быццам бы музыкай апісвае міжваеннае жыццё заходнебеларускага мястэчка. На самай справе, гэта выдатны жарт менскіх музыкаў са стыляў, модаў, гістарычных міфаў, абдуральных лозунгаў. У ажыццяўленні праекта прымалі ўдзел некалькі дзесяткаў асоб. Канцэпцыю альбома прыдумалі Кася Камоцкая, Лявон Вольскі, гукарэжысёр Анатоль Дадзь і Міхал Анемпадыстаў, які напісаў словы песень. Ён жа на сцэне Бельскага дома культуры быў канферанс'е. А музыкі, пераапранутыя адпаведна да эпохі ігралі полькі, танга, савецкія маршы, нямецкія вальсы, застольна-бяседныя і лірычныя песні пра каханне і шмат якой яшчэ пародыі на модныя ў поп-культуры плыні. Менскія музыкі аказаліся быць яшчэ і дасканалымі акцёрамі, а ўжо асабліва сэрца публікі пакарыў Аляксандр Памідораў, які не пераапранаючыся мог быць сучасным раперам і сярэднявечным манахам.



Вольга Стахвюк. Фота Г. КАНДРАЦЮК

Такога канцэрта ў Бельску яшчэ не было. Можна смела сказаць, што быў ён найбольш яскравай беларускай музычнай падзеяй на Беласточчыне ў адыходзячым годзе. Цуда, супер, бомба! Хто не чуў, той — паводле Гамбровіча — *тромба.*

**Мікола ВАЎРАНЮК**

**Іпаліт КРАСКОЎСКІ**

# Іцка крамар

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

**VI**

Іцка стаў рыхтавацца да такога адважнага кроку. Там, у пушчы, патрабуецца спецыяльны тавар, порах і шрот, за які заўсёды шчодра заплацяць. Жанчыны апранаюцца не так, як сялянкі з Падляшша: ім патрэбны не толькі чырвоныя хусткі, але і ўзорыстыя паркалі, шоўкавыя стужкі, каралі з дробных шкляных пацерак, падобных на пэрлы. Але ж на што тавару набраць, калі грошай ні капейкі?.. Ды гэта не бяда. Раней купец Рафал не паверыў бы, але цяпер напэўна паверыць. Не стане ж ён свой тавар гнаіць, калі збожжа ад дажджу гніе ў полі? У мінулы кірмашовы дзень ён адно пяць рублёў утаргаваў, а раней, як наракаў, у такі кірмаш і па трыццаць рублёў меў чыстага прыбытку. Справа вырашана. Іцка ідзе да Рафала, Іцка ідзе да кантрабандыста, рыжага Шмулькі і бярэ ў яго ў доўг... Ну, спачатку дзесяць фунтаў пораху.

Падрыхтаваўся Іцка. Але як яму самому ісці? Найлепш узяць свайго маленькага Шалома, таксама як і бацька браў яго самога. Тады пашанцавала, мо і цяпер таксама пашанцуе.

І праўда — выдатна пашанцавала.

Дзён праз два пасля шабасу, Іцка крочыў са сваім маленькім Шаломам, у якога была за плячыма маленькая каробачка заднымі стужкамі, каралямі, іголкамі і пярсцёначкамі. У Іцкі за плячыма быў тавар больш дарагі. Крочыць Іцка, адважна аб мокрую зямлю кіем абапіраецца. Ды чаго яму баяцца? Пачатак — палова справы, пачалося ўдала і кончыцца ўдачай.

Увайшлі ў пушчу. Лес, лес, лес, усё толькі лес, хаця ўжо болей за дзесяць вёрст адмахалі. Пачаў адставаць маленькі Шалом. Прыселі, адпачылі, перакусілі праснакамі, што Гітэль спякла ім на дарогу. Усталі, зноў ідуць. Пачаўся цёмны, змрочны яловы лес. Ну так і здаецца, што з-за гэтых хмурых елак ваўкі выскачаць... Тс, сабака забрахаў. Самотная хата лесніка ў гэтай лясной глухамані, будынак вялікі, з мноствам прыбудовак, з-за плота шарэнгі вулляў вызіраюць.

Жанчына ў гадах, мабыць, жонка лесніка, сустракае крамароў на парозе. Гэтак ласкава сустракае. Выбеглі яе дочкі, маладзенькія, гарэзлівыя, прыгажуні. Доўгія русыя косы выбіваюцца з-пад хустачак, і так і просяць, каб у іх уплялі шоўкавыя яскравыя стужкі.

Выклалі з каробак. Гандаль пайшоў удала. Прыдыбаў і ляснік, адразу цэлы фунт пораху ўзяў і чатыры фунты рознага шроту. Цану даў амаль не таргуючыся. Толькі грошай, кажа, няма, бяры прадуктамі. Жанчыны нанеслі крамарам за пакупкі яек, лёну, фасолі, цыбулі, вашчыны. Ляснік прынёс маленькую ліпавую кадушачку мёду такога белага, быццам снег, і з незвычайным пахам лясных раслін. Мяркуе Іцка, што яму ўтрая болей плацяць, чым варты яго тавар, цешыцца. Ды куды ж яму дзяваць усё гэта? Бянтэжыцца ён і пра сваё неўразуменне кажа лесніку.

— Пакінь усё гэта тут, — кажа той, — як будзеш вяртацца назад, усё і забярэш, нам твайго не трэба.

Згадзіўся Іцка. Пайшоў далей. Па дарозе рэчка трапілася. Уся дажджавой вадой перапоўненая, паводка ўжо паміж бярвеннямі мосціка струменіцца.

Дзён за тры ў Іцкі ўвесь тавар быў прададзены, у маленькага Шалома засталіся толькі абрэзкі ад стужак. Амаль усюды плацілі за тавар прадуктамі. Але Іцка не бедаваў. Ён выразна бачыў, што яму надзвычай шчодра заплацілі і што ён не толькі зараз жа аддасць доўг Рафалу, але яшчэ і сабе збярэ грош на чорны дзень. У апошнім паселішчы, куды яны трапілі, ён наняў вазака і, вяртаючыся назад, па дарозе забіраў усё ім набытае. Нідзе яго не падманулі — усё аддавалі да апошняй крышынкі, а то яшчэ і яек пару на дарогу накідалі.

З ружовымі мроямі пад'язджаў Іцка да першага леснікоўскага хутарка, які яны наведалі. Хутка і хутарок той будзе, ужо даліна пайшла.

Раптам недзе ў глыбіні лесу грохнуў гром. Усё мацнейшым і мацнейшым станавіўся грукат яго. Лінуў дождж і не дробны, але як з вядра, быццам абарваліся хмары...

Цёснецца Іцка на задку нанятага вазочка стральца, хаваецца Шалом пад полай бацькавага балахона, набожна хрысціцца стралец, стрымліваючы малады запал свайго коніка.

Гром ударыў спераду так блізка пры дарозе, што бліскавіца asляпіла падарожнікаў, нават пах серы яны адчулі, а пасля змрок настаў — хмара з-за дрэў усёй сваёй масай навалілася на дарогу.

Зноў ударыў гром амаль перад мысай коніка. Конік ірвануўся, панёс, ускочыў на мост, вазок увесь перахіліўся набок.

— Ух, ух! — пачуўся крык. Увесь тавар вываліўся з воза. Іцка і маленькі Шалом апынуліся ў рацэ, проста пад мостам. Імпэтная плынь скамечыла іх, некалькі разоў ударыла аб слупы маста і вынесла на яго супрацьлеглы бок. Рака была завалена аграмаднымі карчамі, у яе вялізныя дрэвы ўпаваліся тоўстымі каранямі. Іцка і Шалом выкараскаліся на бераг, але іхні тавар прапаў без следу... Стралец ледзь здолеў утрымацца за козлы воза і ўвесь пабіты капытамі ашалелага каня цяжка стагнаў ля дарогі.

*(заканчэнне будзе)*

**Пераклад з рускай Міколы ГАЙДУКА**

# Гайнаўка, а можа Chojnówka

26-27 кастрычніка 1998 г. Інстытут усходнеславянскай філалогіі Беластоцкага універсітэта арганізаваў канферэнцыю, прысвечаную уласным імёнам на памежжах. Сярод шматлікіх рэфератаў найбольшую ўвагу прыцягнуў даклад прафесара Казімежа Рымута з Кракава, які расказаў пра заканадаўчыя праекты ў справе ўжывання моў нацыянальных меншасцей у дзяржаўнай і самаўрадавай адміністрацыі. Неўзабаве ўсе гэтыя праекты, разам з законам аб нацыянальных меншасцях, будуць накіраваны ў Сейм для разгляду.

Прапануецца, каб чалавек ад нараджэння меў імя і прозвішча, запісанае згодна з гучаннем на яго роднай мове. Івану або Гансу бацькі не будуць ужо вымушаны даваць імя Ян. У пашпарце так будзе запісана імя дзіцяці, як гэтага яны сабе будуць жадаць. Вядома, што ў беларусаў такіх інцыдэнтаў не будзе, але немцы ці літоўцы напэўна пакарыстаюцца гэтым законам.

У гмінах, якіх значную частку грамадзян складаюць прадстаўнікі нацыянальнай меншасці, адміністрацыя павінна быць гатова працаваць на дзвюх мовах, а кошты перакладу дакументаў, па жаданні зацікаўленых гэтым жыхароў павінна браць на сябе адпаведная ўстанова. У працы самаўрадаў дапускаецца ўжыванне мовы меншасці. Раней, аднак, будзе апублікаваны ўрадавы спісак гмін, у якіх будзе дапускацца такая магчымасць.

Побач назвы мясцовасці на дзяржаўнай мове, новыя законы будуць дапускаць назву на мове нацыянальнай меншасці, якая там пражывае. Але ў гэтай справе павінны быць праведзены гмінныя рэферэндумы. Гэтая ж форма грамадскага волевыяўлення неабходная таксама для таго, каб вярнуць мясцовасці арыгінальную назву, які ў мінулым урадніке далі характэрнае для польскай мовы гучанне. Зразумела, калі мянялі, напрыклад, назву мясцовасці з беларускай на польскую, тады ніякіх рэферэндумаў не праводзілі, а цяпер, каб адмяніць гэты стан, улады прапануюць раіцца з народам.

Змены назваў на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны прафесар Рымут лічыць вынікам змены нацыянальнай свядомасці жыхароў і нацыянальнага складу насельніцтва. Часам толькі — мяркуе прафесар — паўплывала на гэта дзяржаўная адміністрацыя. Навука такім чынам яшчэ раз стала служкаю палітыкі.

Калі новыя законы набудуць юрыдычную сілу і стануць ажыццяўляцца на практыцы — сказаў прафесар — могуць узнікнуць праблемы на захадзе Польшчы. Вядома, там дзе жывуць беларусы, могуць яны хацець толькі мяняць свае імёны, прозвішчы і назвы мясцовасцей, каб больш быць падобнымі да палякаў. А ведаюць аб гэтым нават у Кракаве.

**(ям)**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### Загадка

Што за беленькая мушка
Апусцілася на вушка,
Ледзь чутно паказытала,
Штосьці вушку пашаптала,
І праз міг яе не стала.

(Сняжынка)



*Аліна Сіроцкая як „Ведзьма" ў „Фаўсце".* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Спектакль натуры

Малочная імгла ахінула невялікае возера, атуленае пярсцёнкам аеру і рагозу. Сонца адзінокімі прамянямі ледзь прыкметна ператыкала фірану туману. У мяне склалася ўражанне, што прырода падрыхтоўвае сцэну для якогасьці спектакля. Лёгкі ветрык перагульваў паміж аерам і развяваў густоту імглы. У адну хвілінку пачаў разыходзіцца, адкрываючы новыя краявіды. Лёгкая фіранка імглы-заслоны паднялася. На сцэне з'явіліся новыя акцёры натуры. Ярчэй заззяла сонейка. Мільёны яго радасных прамянёў пацалавалі зямлю, задрыжалі росы. Сонейка паглядзела на свет і весела-весела засмяялася.

**Аліна Сіроцкая, ПШ у Чыжах**

## Гіт праграмы

9 кастрычніка ў пятніцу на панадворку пані Святланы Сычэўскай адбылося вогнішча. Спадарыня Святлана жыве побач 200-гадовай хаты Яраслава Кастыцэвіча — свайго бацькі, былога дырэктара беларускага ліцэя ў Бельску.

У мерапрыемстве ўдзельнічалі вучні нашай школы. Арганізатарамі былі спадарыня Сычэўская і спадарства Альжбета і Дарафей Фіёнікі. Усе з зацікаўленнем чакалі гіт праграмы: да нас мела прыбыць наша сяброўка, журналістка і акторка — Жанэта Роля. На жаль, яна не паявілася. Нягледзячы на няўдачу, мы ўсё ж такі неяк гулялі. Пяклі каўбасу, яблыкі і хлеб. Гаспадыня пачаставала нас кампотам і цукеркамі. Пад канец гульняў мы заспявалі некалькі песень: „Ой, мой міленькі", „Е ў полі вінко", а таксама „Многая лета" пані Святлане Сычэўскай. Былі і гумарыстычныя моманты — некаторым хлопцам не шанцавала. Адзін некалькі разоў упаў, а другі ў гульні з цвіком прабіў сабе нагу. На шчасце, абодвум нічога страшэннага не сталася і ўсе шчаслівa вярнуліся дадому.

Сустрэча ля вогнішча нам вельмі падабалася і па сённяшні дзень весела яе ўспамінаем.

**Эвеліна Тымашэвіч,**
**Эва Прафірук з ПШ н-р 3 у Бельску**



*Міхась Сцепанюк і Міхась Міранові у сцэны „Бацькам стаў".* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Як святкавалі ў Гайнаўцы
## Дзень настаўніка

17 кастрычніка г.г. у Гайнаўскім доме культуры адбылося ўрачыстае і цікавае святкаванне Дня настаўніка, падрыхтаванае вучнямі ПШ н-р 2, н-р 5 і белліцэя ў Гайнаўцы. Першымі выступілі дзяўчаты з музычнага гуртка ПШ н-р 2, якімі кіруе Ян Васілюк. Анна Хмялеўская падрыхтавала вучняў ПШ н-р 5, якія, апроч спеваў, прадставілі сцэнкі з жыцця школы. Дзве вучаніцы з VII класа прачыталі таксама фрашкі аўтарства сваіх сяброў. Потым на сцэнку выйшлі ліцэісты. У першай сцэне захапілі Кася Каўшыла (іграла „бабульку") і Павел Ефімюк („дзядуля"). Пасля пачалася адаптацыя IV Часткі „Дзядоў" паводле А. Міцкевіча. На сцэне паявіліся прывіды дзетак (Эліза Дудэль і Караль Вакулюк — іх выступленне традыцыйна перарывае рэклама „безалкагольнага піва"), якія не могуць трапіць у рай па прычыне таго, што ніколі не атрымалі адзінак. Гусляр (Ілона Карпюк) уручае няшчасным дзеткам па адзінцы, і яны, шчаслівыя, адлятаюць у рай. Тут ізноў — рэклама маргарына „Кама" (пані Камоўская з Гайнаўкі выйграла аўтамабіль, аказваецца, цацачны). Наступны страшны прывід — настаўнік (выдатны акцёр Войтак Антчак), якога тузаюць за адзенне страшэнныя птахі — совы ды крумкачы за тое, што быў нядобры для вучняў. Пакуты ўрэднага настаўніка, які мучыцца пасля смерці, перарываюць прадстаўнікі фірмы Шварцкопф, каб задэманстраваць цудоўны парык. Гусляр дарые страшныя паводзіны пры жыцці настаўніку, ды ён павінен яшчэ тры гады пакутаваць: няхай асцерагае сваіх сяброў перад помстай вучняў!.. Тут урываецца на сцэну вядучы „Аўдыётэле", задае дурное пытанне, на якое можа быць, як заўсёды ў такой праграме, просценькі адказ. Узнагарода — „Мерседэс". Убягае Эліза Дудэль з I „э", разварочваецца як сапраўдны аўтамабіль маркі „Мерседэс", а калі Ілона даказвае „Бэнц!" — Эліза з грукатам падае на падлогу ГДК! Пасля рэкламы паяўляецца прывід дзяўчыны, якая скардзіцца, што ніколі пры жыцці не пакахала хлопца. Мужчынская публіка нараканні красуні ўспрымае даслоўна. „Няхай прыбягуць да мяне хлопцы!" — стогне ў пакуце прывід (вабная Ева Аксянцюк), і тут, здаецца, „не зусім цвярозыя" юнакі зрываюцца з крэсел. Але, усё-такі, не выпаўняць яны просьбы няшчаснай лірычнай дзевы ў белым. Усе яшчэ знаходзяцца пад яе ўражаннем, як тут ужо і канчаецца выступленне, падрыхтаванае вучнямі ліцэя з настаўніцай Ядвігай Дамброўскай. На заканчэнне ўрачыстасці выдатна зайграе Шапэна на фартэпіяна Анэта Тарасюк з ПШ н-р 2.

Вялікі дзякуй усім выканаўцам, настаўнікам ды дырэктару і працаўнікам ГДК за такую „кветку" з нагоды Дня настаўніка!

**Іаланта Грыгарук**

## Лістапад-снегапад

Задумалася была пахмурная, як заўсёды, восень. Усё думала, гадала бедная: „Ці то яшчэ пагасціць?" Ды дзе там, нечакана, неспадзявана на самай сярэдзіне свайго апошняга месяца сыпанула зіма злоснай жменяй снегу, адной, другой і яшчэ, яшчэ... „Ідзі, хопіць, і так заседзелася", — незадаволена вурчыць зіма, пазіраючы злоснымі, халоднымі, калючымі вачыма з-пад ілба.

Глянула расчаравана восень на чырвоную рабіну, што так доўга гарэла агнём-полымем, на прыціхлую зялёную сасонку і на ўвішную сінічку — звеставанку зімы...

Пайшла восень некуды далёка-далёка, раз-пораз страсаючы апошнія парудзелыя лісточкі, каб і следу не засталося. А кволы, першы яшчэ марозік сваволіў, падпякаючы старой восені пяты. Знайшоў з каго пацвельвацца — не-не ды і ўшчыкне нямоглую старую то за нос, то за рукі, падганяючы ў далёкую дарогу.

Выйдзеш раным-раненька на вуліцу... І што гэта?! Танюсенькая бела-шэрая пелярынка нібы накінута на плечы зямныя. Дакранешся цёплай рукой да травінкі збялелай, халоднай і штосьці прыемнае, дрыготкае прабяжыць па целе.

Зводдаля заблішчэла лужына, зацягнутая тоненькім шкельцам лёду. Радасны верабейка растапырыў крыльцы і пырхнуў долу на край лужыны. „Тук-тук" дзюбкай, а вады няма. Скочыў з другога боку — зноў „тук-тук" і зноў нічога няма. „Дзе ж вада?" — здзіўлена павярнуў галоўку да мяне.

Падыдзем да лесу. А за шкляным люстэркам нейкая нязвыклая для вока і для душы пустэча. Толькі голыя галінкі махаюць на ветрыку, нібы развітваюцца з восенню.

Адыходзіць лістапад у прошласць. Прачытана апошняя старонка ў кнізе восені. Надыходзіць зіма — traскучыя маразы, мяцеліцы, адлігі, зноў завірухі...

**Наталля Суслава**

# Аляксандр і Ніна



Калі я гавару на гэтага малога „Алеська", ён вельмі злуецца. „Я нэ е Алеська, я е Аляксандар", — тлумачыць ён мне на роднай бельскай гаворцы. А мне ізноў хочацца сказаць: „Алеська!", бо і бацька мой так зваўся. Цешыць мяне, што ніякі ён не Патрык і не Губерт, а традыцыі яго дзядоў і прадзедаў не загінулі ў гэтай сям'і. Проста, па-нашаму: Аляксандр.

Аляксандр і Нінка Ваўранюкі гэта брацік і сястра. Нарадзіліся яны ў Бельску, але цяпер жывуць у Беластоку. Аляксандру ўжо шэсць гадоў і ён ходзіць у беларускае прадшколле. Нінка таксама пачала хадзіць у гэтым годзе. А ведаеце, дзе яны былі, калі я іх фатаграфавала? На вечары, прысвечаным кніжцы пра Натальку Швед. А дзяцей са школы нумар 4, якія вывучаюць беларускую мову, да выступлення рыхтавала іхняя мама — настаўніца роднай мовы.

Не дзівота, што і яны — Аляксандр ды Нінка , а таксама іх тата — хвалююцца, ці ўсё будзе добра, ці мама са школьнікамі выступяць паспяхова.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*

# Беларускі сялянскі саюз

У II Рэчы Паспалітай было шмат беларускіх партый і арганізацый. Найбольш прыхільнікаў мелі арганізацыі левага накірунку, якія карысталіся падтрымкай улад Савецкай Беларусі. Беларускае насельніцтва не было надта заможнае і па гэтых прычынах таксама вялікую папулярнасць займелі арганізацыі камуністычнага і сацыялістычнага характару.

Вышэйсказанае не абазначае, што беларусы, якія жылі ў даваеннай Польшчы, не стварылі дэмакратычных і некамуністычных арганізацый. Большасць насельніцтва складалі сяляне і таму ўзнікалі арганізацыі, якіх лідэры імкнуліся змагацца за інтарэсы гэтай грамадскай групы ва ўмовах капіталістычнай дзяржавы. Адной з такіх арганізацый быў Беларускі сялянскі саюз. Партыя ўзнікла пры канцы 1925 года. Была яна створана паслямі польскага Сейма Васілём Рагуляй і Фабіянам Ярэмічам. У склад кіраўнічай групы ўваходзілі таксама Аркадзь Бельдзюкевіч і Браніслаў Туронак. Партыя выдавала газету „Сялянская доля", дзе прапагандавала сваю праграму. Дзеячы Беларускага сялянскага саюза дамагаліся права для беларускага народа самастойна вырашаць аб сваім лёсе, падзелу памешчыцкай зямлі паміж найбяднейшых сялян, спынення польскага асадніцтва на беларускіх землях, школьніцтва на беларускай мове, беларусізацыі Праваслаўнай і Каталіцкай цэркваў.

Беларускі сялянскі саюз супрацоўнічаў з іншай цэнтрысцкай партыяй — Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй. Супольна стварылі яны ў 1926 г. Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры. Польскія ўлады рабілі аднак усё, каб не развіваліся беларускія афіцыйныя нацыянальныя структуры. З дэмакратычнымі аніцацыямі змагаліся таксама камуністы, якія імкнуліся стаць адзіным прадстаўніцтвам беларусаў у Польшчы. У 1929 годзе пасля няўдалага ўдзелу ў парламенцкіх выбарах партыя спыніла сваю дзейнасць.




Мал. Ані БАЧЫНСКАЙ і Монікі ЯКІМЮК з ПШ у Чыжах

<u>Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага</u>

# У заробкі

Вядома, голад не свой брат, як засмокча, дык забудзешся і на лянoту, і на панскую пыху. Вось паны Кубліцкі ды Заблоцкі збіраюцца ў заробкі. Ды не куды-небудзь, а да самога пана Кіндзюшкі. У пана Кіндзюшкі была вялікая гаспадарка, але ён не меў часу нават палічыць свой скарб, бо быў дзівак: вечна сядзеў на гарышчы ды глядзеў праз падзорную трубу на зоркі і Месяц.

— Няма ў мяне чыстай работы, — кажа ён панам Кубліцкаму ды Заблоцкаму. — Ёсць адно — мужыцкая праца: гной растрасаць або свіней пасвіць. Выбірайце.

Пачухаліся паны ды вырашылі: свіней пасвіць. Усё-ткі нешта роднае, жывое. Але свінні не зважаюць на шляхетнасць сваіх пастухоў і разбягаюцца па лясах, хаваюцца ў пушчы, у звярыных норах, пад карчамі. Узяць бы добрага трына ды павыпорваць іх адтуль, сагнаць у гурт, але ў паноў не хапае на тое спрыту. Тым часам свінні жывуць на лясным харчы — жалудах ды карэньчыках — і памалу дзічэюць, абрастаюць шчаціннем. Яно б усё нічога, але вось неба зацягваецца хмарамі, і пан Кіндзюшка мусіць адарвацца ад падзорнай трубы і зірнуць на зямлю.

— А дзе ж свінні? — пытаецца.

— У лесе, дзе ж ім яшчэ быць, — даволі дзёрзка адказвае пан Заблоцкі.

— Хай свінкі пагуляюць, — ліслiва падхоплівае пан Кубліцкі. — На лясных жалудах яны вунь якія павырасталі. А ўвосень можна будзе распачаць паляванне на дзікоў.

Пан Кіндзюшка на тое нічога не адказвае, вяртаецца да свае трубы. Былі б перад ім мужыкі, дык загадаў бы адперыць іх бізунамі на стайні. А з гэтых што возьмеш?

— Ідзіце кароў пасвіць, — адно буркнуў ён.

Каровы не свінні, яны ў карчы не палезуць, але з імі клопатна, толькі глядзі, каб не зайшлі ў агарод. Паны ж распачынаюць спрэчку — у каго род старэйшы. Каровы тым часам залазяць у грады і трушчаць усё чыста — моркву, рэпу, гуркі. Але ім і гэтага мала — выбіраюцца з гарода і брыдуць да самога сіняга мора, а там лезуць проста ў ваду, шукаючы марской капусты. А з мора іх ужо і калом не выб'еш, дарэмна паны Кубліцкі ды Заблоцкі бегаюць па беразе ды ўпрошваюць:

— Сюды, кароўкі, сюды, даражэнькія!

Але каровы не слухаюцца. Спадабалася ім у моры жыць, ну што з імі зробіш.

— Дзе мае каровы? — аднойчы пытаецца пан Кіндзюшка.

— У моры, дзе ж ім быць, — адказвае пан Заблоцкі.

— Што за лухта! — не верыць пан Кіндзюшка. — Не могуць каровы жыць у моры.

— Чаму не могуць? — пярэчыць пан Кубліцкі. — Жывуць жа марскія каровы, вось і гэтыя неяк прызвычаіліся.

*(працяг будзе)*

**Пятро Васючэнка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 45

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Winogrona | | ▼ ► | | ▼ | | Narkotyk | |
| Czaszka | Wina | | Podstawa | | Koma | ▼ | Dom / Zastaw |
| ▼ | Narkoza | ► | ▼ | | ▼ | | ▼ |
| | Oskoma | ► | | | | | |
| | Krasnal | ► | | | | | |
| | Rota | ► | | | | | |
| ► | | | | | | | |
| „Prawo jazdy" | Referat | ► | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 41:** Прут, прас, раман, апора, хан, доказ, змазка. Яд, праход, прапанова, рамонак, гусар, намазка.

Узнагароды — **запісныя кніжкі** — выйгралі: **Бажэна Ляўчук** з Дубіч-Царкоўных, **Марта Пухальская, Агнешка Селеванюк, Анджэліна Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага і **Іаанна Крышкавец** з Махнатага. Віншуем!

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.



Талон „Зоркі" № 45
08.11.1998

# Цар Мікалай II вярнуўся ў Белавежу

Першую фотавыстаўку, прысвечаную мінуламу Белавежы наладзіў восенню 1984 г. Артур Дамашэвіч. Дзесяць гадоў пазней у гісторыю мястэчка зазірнуў Анджэй Кэчынскі. Яго фотавыстаўка „Царскі палац у Белавежы", падрыхтаваная ў сотую гадавіну пабудовы аб'екта, выклікала фурор. Белавежцы яшчэ сёння ўспамінаюць яе так, быццам ад таго часу мінула некалькі дзён, а не чатыры гады. Здавалася, што А. Кэчынскаму цяжка будзе паўтарыць ранейшы поспех. Але той, хто гэтак думаў, памыляўся. Доказам гэтаму была чарговая фотавыстаўка „Белавежа на старых здымках", наладжаная ў пачатку 1998 г. Словы прызнання, якія плылі ад белавежцаў у адрас А. Кэчынскага хіба настолькі яго падмацавалі, што рашыўся на, здавалася б, неверагоднае. Прыдумаў наладзіць фотавыстаўку „Царскія паляванні ў Белавежы" з архіўных здымкаў Расійскага дзяржаўнага архіва кінафотадакументаў, які знаходзіцца ў Краснагорску пад Масквой. Дабіўся ён таго, што архіў згадзіўся пазычыць 51 здымак, якія дагэтуль нідзе не экспанаваліся і не публікаваліся!

Выстаўка, арганізаваная супольна РДАФ у Краснагорску і Белавежскім нацыянальным паркам, працягвалася ад 11 да 18 кастрычніка г.г. Яе куратарамі былі Галіна Віктараўна Каралёва з краснагорскага архіва і, вядома, Анджэй Кэчынскі — навуковы працаўнік БНП. Тэксты для выстаўкі апрацавала Ева Мароз-Кэчынская з Белавежскага асяродка культуры, на падставе матэрыялаў Георгія Карцова і Пятра Байко.

У асноўным здымкі паказвалі ўдзельнікаў царскіх паляванняў у 1897, 1903 і 1912 гадах. Найчасцей відаць на іх было цара Мікалая II, царыцу Аляксандру Фёдараўну і іхнія чатыры дачкі. Адсутнасць на здымках з 1912 года царэвіча Аляксея тлумачыцца тым, што ён у той час захварэў і не мог выходзіць з палаца. На здымках можна таксама прыкмеціць вялікіх князёў Міхала Мікалаевіча, Мікалая Мікалаевіча, Дзмітрыя Паўлавіча, Міхала Аляксандравіча, Уладзіміра Аляксандравіча, вялікую княгіню Вольгу Мікалаеўну, княгіню М. В. Баратынскую, графаў В. Н. Арлова, В. Б. Фрэдэрыкса, І. Патоцкага, Грынвальда, каменданта палаца В. А. Дзядзюліна.

Апрача розных момантаў з ходу паляванняў, наведвальнікі фотавыстаўкі маглі паглядзець дастойных гасцей у іншых сітуацыях — падчас выхаду з царквы, на станцы ў час прыезду, на шпацыры ў парку. Асаблівую ўвагу прыцягвала некалькі здымкаў з прывітання царскай сям'і дэлегацыяй белавежскіх мужыкоў і ўручэння цару падарункаў мясцовымі школьнікамі. Некаторыя жыхары Белавежы распазналі на гэтых фатаграфіях сваіх продкаў. На адным са здымкаў фатограф увекавечыў момант выхаду царыцы Аляксандры Фёдараўны і княгіні М. В. Баратынскай з народнай школы для дзяўчынак, якую яны візітавалі. Чатыры здымкі паказвалі палац звонку і пяць — унутры. Асабліва гэтыя другія выклікалі вялікае зацікаўленне, з увагі на тое, што такіх здымкаў няшмат. На іх паказаны кабінеты цара і царыцы, прыёмны пакой, більярдная і сталовая залы.

Цікава было прыглядзецца прыгожай царскай рампе, якую разабралі ў другой палове 20-х гадоў. Чаму гэтак сталася — ніхто з белавежцаў і дасюль не ведае. На іншым здымку бачым помнік зубра, пастаўлены на памяць аб паляванні імператара Аляксандра II у 1860 г. Ён, пасля вывазу ў 1915 годзе ў Расію, у Белавежу ўжо не вярнуўся. З волі прэзідэнта РП Ігнацыя Масціцкага апынуўся ў Спале пад Інаўлодзам.

Аўтарамі здымкаў з'яўляюцца м.інш. А. Насвяцевіч (з 1897 г.) і К. Э. Ган (з 1903 г.). У краснагорскім архіве захоўваецца разам звыш 300 фатаграфій з Белавежскай пушчы, так што на белавежскай выстаўцы паказана была толькі маленькая частка збору, але затое — паводле Г. Каралёвай — найцікавейшая. Пры нагодзе трэба ўспомніць, што ў будынку, у якім знаходзілася выстаўка, за царскіх часоў змяшчаўся музей паматак па царскіх паляваннях. У ім м.інш. захоўваўся альбом са здымкамі. І, вось, праз больш-менш 100 гадоў гэтыя здымкі вярнуліся ў тое ж самае памяшканне. Шкада толькі, што не назаўсёды.

РДАФ дазволіў беластоцкаму тэлебачанню зняць здымкі для тэлеперадачы аб памятках з царскіх часоў, якія захаваліся дагэтуль у Белавежы. Сам архіў можа выканаць адбіткі здымкаў кожнаму, хто іх закажа. Усё ж, папярэджваю зацікаўленых гэтай паслугай, што яна даволі многа каштуе. А, вось, адрас архіва: Московская обл., г. Красногорск, ул. Речная, дом 1, Российский государственный архив кинофотодокументов. Тэлефоны: 563-14-63, 563-39-96, 562-14-64.

Ад імя ўсіх белавежцаў хачу падзякаваць Анджэю Кэчынскаму за такі мілы і нечаканы сюрпрыз, які ён нам падрыхтаваў. А ў сваю чаргу, цікава, чым ён нас яшчэ здзівіць?

**Пётр Байко**

# Запаведнік ці голыя паненкі?

**У Ваяводзіне (Югаславія) пражывае 50-60 тысяч венграў, што складае, больш-менш, дзесяць працэнтаў ад усіх жыхароў рэгіёна. Дзяржаўнае тэлебачанне Нові-Сад у сталіцы Ваяводзіны выпускае штодзень па-венгерску тры інфармацыйныя выданні: два дзесяці- і адно дваццаціпяціхвіліннае. Апрача гэтага, калектыў з трыццаці журналістаў робіць венгерскія адукацыйныя, культурныя, маладзёжныя, сатырычныя і яшчэ некалькі іншых праграм.**

Кракаўскі асяродак Польскага тэлебачання сарганізаваў у днях 14-18 кастрычніка ў Кракаве і Пярэмышлі II Міжнародны фестываль этнічных фільмаў і тэлеперадач „У сябе". Аб патрэбе такога мерапрыемства няхай скажуць самі арганізатары: „Этнічныя праграмы ўзнікаюць у шмат якіх тэлестанцыях, хаця часам па загадзе, як нешта другараднае, што не прыцягне масавага гледача. Стваральнікі фестывалю лічаць, што не мусіць так быць, аднак з умоваю, што перадачы рыхтаваць муць высокакваліфікаваныя журналісты і фільмоўцы. Міжнародны фестываль мае на мэце падняць прэстыж гэтай тэматыкі, зацікавіць ёю прафесіяналаў ды стварыць магчымасць абмену вопытам. Назоў фестывалю падкрэслівае, што нацыянальныя меншыні сапраўды жывуць у сябе і нікому нельга гэты факт аспрэчваць".

Арганізатары прыдбалі багатых памочнікаў і спонсараў. Гэта магістраты Кракава і Пярэмышля, Генеральнае консульства ЗША ў Кракаве, некалькі рэгіянальных культурных устаноў, газет і радыёвяшчанняў, а перш-наперш дзве міжнародныя арганізацыі: *Circom Regional*, якая гуртуе каля трохсот рэгіянальных асяродкаў тэлебачання з розных краін і *EEBA* (Еўрапейская асацыяцыя этнічных радыёвяшчанняў і тэлебачанняў), якая дапамагае нацыянальным меншасцям прабіцца ў электронныя мас-медыі.

Немалыя грошы і шырокая міжнародная інфармацыя ўжо на сам пачатак прыдбалі фестывалю вядомасць. Камісія прагледзела амаль сотню фільмаў і рэпартажаў з усяго свету, на конкурс прапускаючы трыццаць тры. Ацэньвала іх журы пад старшынствам вядомай рэжысёр з Венгрыі Марты Мэсараш. А побач фестывалю праходзіў семінар для журналістаў, якія таксама ацэньвалі тэлеперадачы нацыянальных меншасцей з розных краін Еўропы. У сваёй ацэнцы кіраваліся яны крытэрыямі зусім іншымі ад тых, якія прынялі члены міжнароднага журы фестывалю.

Выдатныя творцы шкляного і вялікага экранаў узнагароду Гран-пры „Карані" прысудзілі Македонскаму тэлебачанню за фільм „Лёс". Гераіня фільма, старая жанчына жыве самотна ў апусцелай гарыстай мясцовасці, якую час ад часу ўзрываюць выбухі з непадалёкага каменнага кар'ера. Жанчына расказвае пра лёс, які закінуў народжаную ў Будапешце дзяўчыну ў гэтую бедную албанскую ваколіцу, дзе нарадзіла і выправіла ў свет дзяцей, пахавала мужа і дажывае разам з козамі і сабакамі.

Журналістаў гэтая ўзнагарода ўразіла. Фільм быў зроблены надзвычай прымітыўна — неахайны мантаж, з-за камеры адзываліся галасы, раз нават адзін член здымачнай групы залез у кадр. Кожны праграмны дырэктар любога рэгіянальнага тэлецэнтра загадаў бы гэты сыры матэрыял некалькі разоў перамантаваць.

Адзін член журы спакойна выслухаў гэтыя закіды ад групы ўдзельнікаў семінара і спакойна адказаў, што гэта не фестываль у Венецыі і кіруецца ён сваімі прынцыпамі. Толькі праз некалькі гадоў будзе можна гаварыць пра нейкую традыцыю, у тым і ясныя крытэры ўзнагароджвання. Калі ж гэты член журы спытаў у сваю чаргу, чаму журналісты прысвоілі сваю ўзнагароду сербскаму тэлебачанню, адзін з іх агрызся: таму, што тое паказвае голых паненак на пляжы.

Іншымі словамі гэтую розніцу можна апісаць так. Калі пабочныя гледачы (а такімі, усё ж, былі члены журы) ў меншаснай тэме шукаюць нейкую экзотыку, прымітывізм, дык самі прадстаўнікі тых жа асяроддзяў мараць пра магчымасць паказваць у тэлебачанні як мага шырокі спектр сучаснага жыцця. Дзяўчаты (не зусім аголеныя, а ў нармальных купальных касцюмах) у мадзьярскай праграме Югаслаўскага тэлебачання, гэта бадай найменш важны аспект пры ацэнцы нацыянальных праграм журналістамі з нацыянальных меншасцей. У мадзьярскіх тэлеперадачах з Новага Саду ўбачылі яны свайго роду ідэал, да якога хацелі б імкнуцца — нармальнае тэлебачанне, якое паказвае не толькі фестывалі песні ды танца, але ўсё, што хвалюе сучаснага чалавека, ад пляжу і культуры, праз войны і стыхійныя катастрофы, па Клінтанаў прарэх.

**Мікола Ваўранюк**

# Супольнасць у культуры

Цэнтр культуры „Арсус" у Варшаве запрашае на VII Усяпольскі агляд мастацкіх дасягненняў нацыянальных і этнічных меншасцей „Супольнасць у культуры '98", які адбудзецца 19-21 лістапада 1998 г. у Варшаве. У праграме прадугледжваецца прэзентацыя беларускіх, грэчаскіх, літоўскіх, нямецкіх, польскіх, расійскіх, цыганскіх ды яўрэйскіх калектываў і салістаў, выстаўкі карцін і фатаграфій. Беларускі бок прадстаўляць будзе калектыў Гайнаўскага дома культуры. Прыме ён удзел у інаўгурацыйным канцэрце, які адбудзецца ў пятніцу, 20 лістапада 1998 г. а 18 гадзіне ў Цэнтры культуры „Арсус" у Варшаве, вул. Трактарыстаў 14. У гэтым жа цэнтры культуры ў галерэі „Ad-hoc" адкрыецца выстаўка алейных карцін Алега Кабзара з Бельска-Падляшскага пад агульнай назвай „У пошуках самога сябе". Мерапрыемству спадарожнічаць будзе беларускі літаратурны вечар. У чацвер, 19 кастрычніка 1998 г. а 18 гадзіне ў Цэнтры прэсы і кнігі славянскіх народаў у Варшаве, вул. Гагарына 15, будзе можна сустрэцца з прафесарам Аляксандрам Баршчэўскім (Алесем Барскім) і доктар Тэрэсай Занеўскай.

За дэталёвымі інфармацыямі можна звяртацца ў арганізацыйнае бюро мерапрыемства штодзень у гадз. 8-15 па адрасу: Grażyna Zaczek, Renata Miedziejewska, Ośrodek Kultury „Arsus", 02-495 Warszawa, ul. Traktorzystów 14, tel. 667 34 54, fax 662 76 26. Арганізатары запрашаюць усіх чытачоў. Уваход свабодны.

# Прусы

20 кастрычніка г.г. у Дзяржаўным музеі ў беластоцкай ратушы была адкрыта выстаўка п.з. „Прусы. Гісторыя і культура балцкага народа". Былі паказаны экспанаты сабраныя ў фондах Дзяржаўнага археалагічнага музея ў Варшаве і Цэнтральнага марскога музея ў Гданьску.

Са спадчыны прускага народа, які спыніў сваё існаванне пад напорам мяча тэўтонскіх рыцараў-крыжаносцаў, захавалася нямнога. На выстаўцы былі паказаны прыклады: вупражы — адмыслова аздобленая конская аброць, засцежак для вопраткі, узбраення — даўжэйшыя і кароткія мячы, невялікая вага з гірамі, паясныя спражкі, пахавальныя урны. Паказаны былі таксама зрэканструяванае пахаванне коней і макет прускага гандлёвага порта Труса. Найлепш, бадай, з усіх эспанатаў захаваліся каменныя чалавечыя скульптуры натуральнай велічыні.

* * *

Пра саміх прусаў ведаем мы нямнога. Польская школьная гісторыя навучае нас, што яны надта дакучалі мазавецкім князам і адзін з іх, Канрад, у 1226 годзе запрасіў на памежжа сваіх уладанняў ордэн крыжаносцаў. Ордэн набіраў сілу, пашыраў свае ўладанні, „хрысціў" карэнных жыхароў так, што яны сталі знікаць са сваёй зямлі ды пачаў ужо пагражаць і чарговым, балцкім і славянскім, суседзям. Пасля некалькіх войнаў, у 1410 годзе дайшло да вырашальнай Грунвальдскай бітвы, дзе аб'яднаныя сілы Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага перамаглі тэўтонскіх прышэльцаў. Прускага народа гэтая спозненая бітва ўжо не выратавала.

* * *

Прусы, як і ўсе балты, паявіліся на паўднёва-ўсходніх узбярэжжах Балтыйскага мора недзе каля 5 стагоддзя да н.э. Пра іх, называючы іх эстыямі, згадваў ужо ў 2 ст. н.э. рымскі гісторык Тацыт: „Свеўскае (Шведскае — А. В.) мора на яго правым беразе абмывае краіну эстыеў. Па абычаях і выглядзе яны падобныя на свеваў, аднак мова іх больш падобная на брытанскую... Вельмі рэдка карыстаюцца яны жалезнымі прыладамі, часцей — дубінаю. Пра свае нівы і агароды клапоцяцца яны больш за другіх. Плаваюць і па моры, а на мелях і на беразе збіраюць янтар, які яны называюць «глесум». Самі эстыі не карыстаюцца ім, толькі без апрацоўкі дастаўляюць яго купцам дзівуючыся цане". Англійскі кароль Альфрэд Вялікі (848—899) запісаў расказ свайго мораплаўца Вульфстана: „Расказваў Вульфстан, што адплыў ён з Хетума (тадышні дацкі порт у Кільскім заліве — А. В.) і праз сем сутак даплыў да Труса (каля сённяшняга Эльбланга — А. В.). Краіна эстыяў вялікая: там многа гарадоў і ў кожным горадзе кароль. Многа там мёду і рыбы. Кароль і знаць п'юць кабылінае малако, а простанароддзе п'е мёд. Паміж сабою вядуць яны многа войнаў". Маўрскі яўрэй Ібрахім Ібн Якуб, які ў 965 годзе падарожнічаў з кордаўскім пасольствам у Свяшчэнную рымскую імперыю Атона I, пісаў пра Польшчу: „З краінаю Мешка ад усходу мяжуюць русы, а ад поўначы — брусы [прусы]. Брусы жывуць на берагах Сусветнага акіяна [Балтыйскага мора], у іх свая асаблівая мова; мовы суседзяў яны не разумеюць."

Найбольш звестак пра прусаў захавалася ў „Хроніцы прускай зямлі", напісанай каля 1326 года крыжацкім храністам Пётрам Дзюсбургам. Асноўнай палітычнай адзінкай прусаў было племя, якое складалася з некалькіх мясцовых груп па 1000-2000 чалавек, пражываючых у глыбі лясоў і балот ва ўмацаваных паселішчах. Вырошчвалі яны проса, ячмень і пшаніцу ды гадавалі быдла, авечак, свіней і коней. Праз землі прусаў праходзілі гандлёвыя шляхі з далёкіх краін; сведчаць пра гэта м.інш. знойдзеныя ў раскопках арабскія дырхемы. Ужо ў 12 ст. прусы пачалі аб'ядноўвацца ў большыя згуртаванні з мэтай м.інш. узбуйнення мілітарнай магутнасці. Гісторыкі прускіх суседзяў пішуць пра вялікую агрэсіўнасць гэтага балцкага народа; палякі згадваюць пра пастаянныя набегі прусаў на Мазовію а нават пад Кракаў. Па сутнасці ж, як гэта нам, беларусам, павінна быць добра вядома, трактоўку гісторыі навязваюць мацнейшыя і ў сваё апраўданне агрэсарамі называюць свае ахвяры, таму трэба лічыць, што прусы не былі аж такія грэшныя, а іх суседзі — праведныя. Прусы, праўда, былі астраўком язычніцтва ў хрысціянскім акружэнні. Сваіх пакойнікаў спальвалі яны на кастры разам з усім дабыткам, у іх ліку з коньмі і рабамі, а попел у урнах закопвалі ў ямы. Уся прырода была ў іх напоўнена боскасцю. У святых месцах, дзе жрацы апекаваліся вечным агнём і куды чужынцаў, асабліва хрысціян, не прапускалі, прусы ахвяроўвалі жывёлу, каб прыдбаць ласку багоў. Першым, хто ўзяўся перавесці прусаў у хрысціянства, быў св. Вайцех.

У мінулым годзе ў Польшчы адзначалася тысячагоддзе смерці св. Вайцеха. Святы Вайцех, які выводзіўся са знатнага ўсходнечэшскага роду і якога на Захадзе называюць Адальбертам, у 982 годзе быў назначаны біскупам Прагі, аднак у выніку канфліктаў з пражскім князем вымушаны быў пакінуць кафедру ў чэшскай сталіцы. Яго начальнік мітрапаліт Майнца настойваў, каб вярнуўся ён у Прагу, аднак папа Іаан XV вырашыў, што Адальберт, калі жыхары Прагі не згодзяцца на яго вяртанне, будзе весці місіянерскую дзейнасць на Усходзе. Жыхары Прагі не захацелі вяртання Вайцеха і ён у 997 годзе накіраваўся ў Прусію. Прусы загадалі Вайцеху пакінуць іх зямлю, пагражаючы на выпадак паўторнага вяртання смерцю. Вайцех вярнуўся і прускія жрацы затрымалі яго акурат на адной са сваіх святых палян. Іх пагроза была прыведзена ў выкананне 23 красавіка 997 года. Два гады пасля смерці Вайцех быў kananізаваны папам Сільвестрам II. Святы Вайцех быў першым польскім святым, а чэшскім — трэцім. Першаю чэшскаю святою стала Людміла, жонка першага гістарычнага князя Чэхіі Бажавоя, якая разам з мужам была ахрышчана ў 869 годзе славянскім настаўнікам св. Мяфодзіем; другім чэшскім святым стаў унук св. Людмілы — князь Вацлаў I.

Смерць Вайцеха не спыніла хрысціянізацыйнага наступу на прусаў. 26 кастрычніка 1206 года папа Інакенцій III аб'явіў булу, у якой заклікаў польскі клір пашыраць хрысціянства. І менавіта гэта было галоўнаю прычынаю высылкі ордэна крыжакаў на Хэлмінскую зямлю ў 1230 годзе. Год пазней збудавалі яны крэпасць у Торуні, якая стала іх плацдармам для дзеяннаў супраць прусаў. У 1233—1240 гг. крыжакі заваявалі заходнюю часць прускіх зямель; іх жыхары адчайна супраціўляліся. У 1242 годзе ўзнялі яны паўстанне, бараніліся адзінаццаць гадоў; другое паўстанне ўспыхнула ў 1260 годзе, аднак сілы прусаў былі заслабыя для перамогі над тэўтонскім рыцарствам. У 1283 годзе крыжакі закончылі заваёўванне Прусіі. Каб заняволіць насельніцтва, заваёўнікі знішчалі яго маёмасць, у выніку чаго пачалі гінуць цэлыя мясцовасці і роды. Многія прусы падаліся ў бежанства м.інш. на беларускія землі. Віктар Цітоў у кнізе „Народная спадчына" (Мінск 1994) піша: „У XIII ст. этнічны склад насельніцтва Панямоння прыкметна ўскладніўся. Пад націскам тэўтонскай навалы сюды пацягнулася хваля бежанцаў з старажытнай Прусіі, Мазовіі, Жэмайціі. Даследаванні Э. А. Вальтэра і К. К. Бугі ў канцы XIX — пачатку XX ст. паказалі, што гаворкі так званых «літоўцаў», якія ў той час пражывалі ў Слонімскім павеце, выяўляюць генетычнае падабенства з мовай старажытных прусаў". А тыя прусы, якія асталіся на роднай зямлі, трывалі ў сваёй мове і веры яшчэ да XVII стагоддзя.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Дзяды

Новыя часы нясуць няўхільна новае. Людзі, якія сёння вяртаюцца ў Польшчу з даволі доўгага прабывання ў Амерыцы, задаюць сабе пытанне: чаго было вяртацца? Дзіву дзівяцца яны, куды падзелася іх краіна: усюды відаць адно англійскія надпісы, шыльды, амерыканскія стравы прадаюць у кіёсках і барах — розныя гатдогі, чысбургеры ды гамбургеры, а мясцовай культуры штораз менш, бо замяніла яе амаль суцэльна амерыканская кінематаграфія. Нават і на вёсцы бачыш усё больш хат, пакрытых чужым для нашага клімата сэйдынгам, быццам бы дрэва ці гліны на цэглу ў нас ужо забракла.

Сілком уводзяцца новыя святы з англа-саксонскай культуры, як хаця б „Валянцінкі" — свята закаханых, якога няма ў славянскіх традыцыях. Ужо прабуем весяліцца як амерыканцы ў Свята памерлых і бавіцца маскамі з гарбузоў.

Што датычыцца свята 1 Мая і Дня жанчын, дык яны адкінуты, здаецца, па той прычыне, што некаму асацыяваліся з Усходам, хаця кожны, хаця крыху асвядомлены чалавек ведае, што і яны прыйшлі сюды з Захаду.

Нядаўна мы адзначалі Свята памерлых. На пытанне, чыё гэта свята, найлепш было б адказаць: паганскае, свята нашых продкаў. Але на Беларусі, як і ў Польшчы, здаўна святкуюць яго хрысціяне. Там назвалі яго: Дзяды, пра што пісаў нават Адам Міцкевіч.

Яшчэ да нядаўна ў гэтыя дні па польскім радыё і тэлебачанні гаварылася: **мы** святкуем, **мы** ўспамінаем, **мы** запальваем свечкі і ўскладаем кветкі.

І гэты звычай настолькі пашырыўся (так наогул бывае з добрым звычаем), што хаця было гэта каталіцкае свята, то ўсе лічылі сваім абавязкам наведаць у гэты дзень прынамсі адны магілкі, дзе, калі не было нікога з сям'і, дык ставілі свечкі знаёмым, усім, каго калісьці мы любілі і шанавалі — незалежна ад веры, ці проста безыменным салдатам, праліўшым сваю кроў на нашай зямлі. Мая швагерка (яна з Люблінншчыны), запальваючы свечкі на вайсковым могільніку ў Беластоку, заўсёды паўтарае: „Мо нехта паставіць свечку і на магіле майго бацькі, якога немцы забілі невядома дзе..."

Свята гэта стала ўжо настолькі паўсюдным і на Беласточчыне, што ўжо і многія праваслаўныя парафіі перанялі гэты звычай і бацюшкі высвячаюць у гэты дзень магілы.

Адным словам, паміманне памерлых было ўжо як бы святам **усіх нас**. Але ў святочных перадачах па радыё і тэлебачанні мы чулі ад раніцы да вечара адно пра **каталіцкае** свята, быццам бы ніхто пра гэта не ведаў. Факт гэты бясконца падкрэсліваецца, увыпуклецца, а нехта з каментатараў сказаў калісьці, што католікі пачалі яго святкаваць ужо ў IV стагоддзі, хаця канчатковы падзел на праваслаўных і католікаў наступіў толькі ў палове XI стагоддзя!

Ну, і што нам цяпер рабіць? Можна адзначаць гэта свята ці не? Калі хтось, напрыклад, не католік?

Прадумаўшы, аднак, справу, можна супакоіцца, бо пры ўваходзе на могілкі ніякіх пасведчанняў пакуль што яшчэ не патрабуюць. Можна кветкі ўскладаць каму хочаш, ды і свечкі запальваць таксама.

**Ада Чачуга**

# Гацькаўскі запаведнік

Археолагі вядуць інтэнсіўнае даследаванне ў адной з вёсак Бельскай гміны — Гацьках. Яны тут адкрылі сляды пасялення з IV-V ст. н.э. Можна тут пабачыць астанкі дамоў, фрагменты розных хатніх рэчаў, дэкаратыўных вырабаў ды прадметаў першай неабходнасці звыш тысячагадовай даўнасці. Археолагі намераны вывучыць усе гэтыя знаходкі і стварыць у Гацьках археалагічны запаведнік. Зараз Падляшская археалагічная экспедыцыя дабіваецца афіцыйнага занясення гэтай вёскі ў спіс помнікаў сусветнай культурнай спадчыны.

**(яц)**

# Сямейны ўспамін



**Пра бежанства, санацыю і вайну расказваюць брат з сястрою — 84-гадовы Аляксей Куна і 76-гадовая Марыя Качан-Філіманюк, пенсіянеры з Кашалёў Арлянскай гміны.**

— У Расію ў 1915 годзе выехалі мае бацькі Кандрат і Анна ды я ў пялюшках. У бежанстве нарадзіліся дзве сястры — Вера і Марыя; апошняя — у зваротнай дарозе. Нашы бацькі расказвалі, што пасялілі нас у Самарскай губерні. Пражылі мы там восем гадоў сярод чувашскага народа. Гэта былі добразычлівыя, сумленныя людзі. Чувашы апекаваліся бежанцамі, якіх з захаду прыехала сюды многа. Летам панавала там спякота і ў поле трэба было выходзіць вельмі рана. Спачатку ўсім жылося вельмі добра, але як пачалася рэвалюцыйная сумятня, настаў голад. Бацька працаваў сторажам. Да ахоўваемага ім склада быў учынены ўзлом і за тое бальшавікі хацелі яго расстраляць. Адпусцілі жывым, калі стаў прасіцца, тлумачыць, што ў яго малыя дзеці.

У Польшчу вярнуліся мы ў 1922 годзе. Кашалі былі спалены поўнасцю, усё зарасло травою. Тыя, што вярнуліся раней, у 1918 годзе, паспелі сяк-так адбудаваць будынкі. У школу хадзіў я ў Орлю. Там закончыў я пяць класаў. Кіраўніком школы быў тады Врублеўскі.

— А хто там у школу хадзіў, якое была тады навучанне, — уключаецца ў размову спадарыня Марыя. — Я ўжо ў дзесяцігадовым узросце жала сярпом. Пятнаццацігадовыя дзяўчаты збіраліся на пакудзелле, пралі, ткалі. Не скончыўшы поўных 17 гадоў я выйшла замуж. У поле трэба было хадзіць з маленькімі дзяцьмі. Бывала, паложыш дзіця ў мыдэль, і робіш. Сямігадовы сын пільнаваў найменшае — немаўля. Калі яно пачынала плакаць, тады я бегла накарміць яго грудзьмі і зноў вярталася да работы. Палоскі былі вузкія, цягнуліся пару кіламетраў, аж пад Рудуты. Па полі тады басанож хадзілі, а ногі аж да крыві былі пакалечаны пожняй. Калі сталі жаць касой, работа ішла шпарчэй.

Людзі тады без школы былі, не дбалі, каб дзяцей пасылаць у школу. Я дурненькая была ў свае 12 гадоў. Як мама нараджала, то мяне зачынілі ў каморы. Дзіця ўжо плача, а я выглядаю бусла. Дзе ж той бусел, хвалююся. А цяпер дзецям усё ў тэлебачанні пакажуць — і разумнае, і дурное таксама, — завяршае сваё выказванне жанчына.

— У 1937 годзе прызвалі мяне на два гады ў войска ў Брэст, — працягвае ўспамін спадар Аляксей. — Адносіны ў арміі былі нармальныя. Быў свой бацюшка, можна было выйсці на горад у царкву або касцёл. Давалі нам водпускі. Не паспеў я вярнуцца дадому пасля ваеннай службы, а ўжо солтыс прынёс павестку аб мабілізацыі — трэба было ехаць за Млаву, на польска-нямецкую граніцу. Калі мы там заехалі, то былі ўжо створаны тры абарончыя лініі. Нас, 20 жаўнераў, паставілі абараняць узгорак і сказалі: „Гэта ваша поле смерці”. Пасля нямецкага ўдару па нас у жывых засталося толькі пяць жаўнераў. Абкідалі яшчэ нас гранатамі. Нам удалося далучыцца да разбітай часці. Адступалі мы пад Варшаву. Палі былі засланы трупамі салдат. Немцы зноў нас разбілі і тады салдаты пайшлі ўрассыпную. Я скінуў мундзір, знішчыў дакументы, пераапрануўся ў нейкія лахманы і пачаў ісці з-пад Варшавы ў Кашалі. Была восень, сяляне на палях капалі бульбу. Часта людзі ўцякалі ад мяне. Відаць, лічылі мяне вар'ятам, бо нармальны чалавек у такіх лахманах не хадзіў бы.

У ветэранскіх дакументах стаіць, што прымаў я ўдзел у абарончай вайне ад 1 да 29 верасня 1939 года. Пасля супрацоўнічаў я з партызанамі (у дакументах напісана, што з 1.12.1943 да 27.07.1944 г.). На нашай тэрыторыі пасля нямецка-савецкай вайны 1941 года засталіся рускія салдаты, якія пайшлі ў партызанку. Дапамагаў я ім харчамі. За гэта ўсё ў 1982 годзе ўзнагародзілі мяне Крыжам кавалерскім Ордэна Адраджэння Польшчы.

— Усяляк у жыцці бывала, усё прайшло, аднак калісьці на вёсцы было весялей і не было такога п'янства, — заўважае спадарыня Марыя.

**Тэкст і фота Міхала Мінцэвіча**

# „Наша ніва” і ўсходняя Беласточчына

**Частка 27**

На старонках „Нашай нівы” за 1909 год з'явіліся два вершы невядомага паэта з вёскі Меляшкі, якая знаходзіцца недалёка ад Гарадка. На жаль, аўтар гэтых вершаў не падпісаўся сваім сапраўдным прозвішчам, а толькі псеўданімам: В. Каршун. Няма сумненняў, што Каршун добра ведаў Пятэльскага-Арла і зусім магчыма, што яны будучы сябрамі супольна пастанавілі выбраць для сябе літаратурныя псеўданімы, выводзячы іх ад птушак. Такім чынам з'явіліся паэты Каршун і Арол. Першы твор (не меў ён загалоўка) В. Каршуна з'явіўся у 19 нумары „Нашай нівы” гэта значыць на два нумары раней чым ужо нам вядомы верш Пятэльскага-Арла.

Твор Каршуна ўтрыманы ў нормах пейзажнай лірыкі, характарызуе настрої, звязаныя з надыходам вясны.

„Пасвячаю А. Я. К.

Прайшлі ужо зімовы забавы,  
Мінуліся цяжкія сны  
І сонца з усмешкай ласкавай  
Глядзіць на зямлю з вышыны.  
Няма ўжо і снегу на полі,  
На небі паменшала хмар  
І моцна душою па волі  
Цяпер размахнецца пясняр.  
Тут ліпа ў лісточкі адзета  
Абсыпана свежай расой,  
І вабіць, і кліча паэта,  
Ківае яму галавой.  
А тут і кудравы бярозы  
Ласкава пытаюць:  
Ты плачаш аб чом?  
На што гэты слёзы?..  
Глядзі што за радасць кругом.

В. Каршун  
25-IV-1909.  
Меляшкі. Гродз. губ.”

Другі верш В. Каршуна п.з. „Песня” быў змешчаны ў 42 нумары „Нашай нівы”. Варта прыгадаць, што два ўжо змешчаныя намі вершы Пятэльскага-Арла таксама мелі загалоўкі „Песня”. Характэрнае і тое, што твор В. Каршуна быў прысвечаны Арлу, што канчаткова нас пераконвае аб тым, што абодва паэты былі блізкімі сябрамі.

Прыглянsocьмася вершу Каршуна:

**Песня**

*Прысвячаю М. Арлу*

Не вятрыско ў полі  
жаласліва выя.  
То з нуды з нядолі  
Маё сэрца ные.  
Чэзнуць думкі з жалю,  
Слезка падступае —  
што была дзяўчына,  
не любіць і тая.  
Ой, не жыць мне болей  
Аднаму без мілай,  
Пацяшацца воляй  
Птушачкай бяскрылай!  
Палячу далёка,  
Ў старану чужую.  
Палюблю ўсім сэрцам  
Мілую другую.  
Можа там за морам  
З мілаю другою  
Разжанюся з горам,  
з горам ды нудою.

В. Каршун”

Усе прыведзеныя вершы як Пятэльскага-Арла, так і В. Каршуна быць можа не з'яўляюцца доказам высокага паэтычнага лёту, аднак трэба памятаць, што ўзніклі яны амаль дзевяноста гадоў таму і што былі бадай што першымі праявамі літаратурнай творчасці сярод беларусаў з усходняй Беласточчыны.

Хацелася б мне пры нагодзе звярнуцца да жыхароў Гарадка і Меляшкоў. Быць можа, хтосьці з іх чуў ад сваіх бацькоў ці дзядоў весткі пра паэта, які выступаў пад псеўданімам В. Каршун. Было б гэта добрым папаўненнем нашых ведаў аб культурным мінулым нашага ўсходнебеластоцкага краю.

Заканчваючы інфармацыі аб вестках з усходняй Беласточчыны на старонках „Нашай нівы” за 1909 год, хацеў бы я яшчэ раз вярнуцца да ўжо выказанага погляду аб тым, што вестак гэтых было параўнаўча ўжо многа. Трэба аднак гэты тэзіс пашырыць заўвагай аб тым, што многія весткі мелі характар пашыраных і паглыбленых публікацый, што было сур'ёзным крокам наперад у параўнанні з інфармацыямі аб Беласточчыне з ранейшых гадоў.

Да унікальных публікацый трэба залічыць артыкулы аб пастанове жыхароў Кленік, якія забавязаліся не піць піва і гарэлкі і шырокую інфармацыю аб узнікненні ў тых жа Кленіках народнага тэатра, які быў першым такога тыпу тэатрам на Гродзеншчыне і мабыць адным з першых на ўсёй Беларусі. Сённяшнія жыхары Кленік могуць ганарыцца сваімі дзядамі і прадзедамі.

Калі б не „Наша ніва”, мабыць, ніхто з сённяшняга, а тым болей будучых пакаленняў беларусаў не даведаўся б аб тым усім высакародным і добрым, а таксама благім і адмоўным, што выступала ў жыцці нашых продкаў.

**Алесь Барскі**

# Новая царква ў Канюках

У маляўніча распаложанай над ракой Нарвай вёсцы Канюкі будуюць царкву св. Ільі. Знаходзіцца яна ў адрамантаваным будынку былой крамы. На патрэбы царквы перадалі яго гмінныя ўлады ў Заблудаве. І яшчэ на свой кошт падключылі электраэнергію.

Цяпер у Канюках раз у месяц служыць настаяцель Рыбалаўскага прыхода а. Рыгор Сасна. На багаслужбе збіраецца 50-60 чалавек, а ўлетку, калі ў вёску прыязджаюць гарадскія дзеці і ўнукі, яшчэ больш.

Вясковыя майстры пабудавалі новы фундамент, адрамантавалі дах. Найбольш працавалі, між іншым, Мікалай Васілюк, Ілья Ігнацюк, Мікалай Андраюк і Васіль Ігнацюк. Цяпер праводзяцца рамонтныя працы ўсярэдзіне. Іканастас зробіць вядомы на Беласточчыне разьбяр па дрэве, мясцовы жыхар Уладзімір Наумюк.

**(гай)**

# Залаты юбілей

7 кастрычніка 1998 года ў Нарве адбылася ўрачыстасць прымеркаваная да 50-годдзя супольнага жыцця. На юбілей было паклікана сем пар, якія супольна дачакалі залатога юбілею. На ўрачыстасці войт Нарваўскай гміны Ян Іванюк супольна з кіраўніком ЗАГСа Галенай Асташэўскай уручылі юбілярам медалі. Потым юбіляры сустрэліся за келіхам шампанскага і піроўжным.

Сярод узнагароджаных былі Люба Нікіфарук і Уладзімір Сцепанюк. Абое яны нарадзіліся ў 1928 годзе ў вёсцы Бялкі. Пажаніліся ў маі 1948 года. Валодзька пайшоў у прымы, бо ў яго была вялікая сям'я. Калі ў іх нарадзілася дачушка, яго прызвалі ў войска. Пасля арміі займаўся ён на гаспадарцы цесця, але пасля смерці маці ў 1954 годзе Валодзю трэба было вярнуцца на бацькаўшчыну і дагледзець старэнькага бацьку. Любе і Уладзіміру Сцепанюкам нарадзіліся яшчэ сын і дачка. Цяпер яны ўжо пенсіянеры, а дзеці Марыя і Іван жывуць у Беластоку. Наймалодшая дачка выйшла замуж у вёску Буйнова.

Залатыя юбіляры дачакаліся трох унучак і чатырох унукаў. Часта прыязджаюць яны наведаць бабу і дзеда.

**Мікалай Лук'янюк**

# Бульбіна



Знаёмы афрыканец Усадзэ Укунбоўа, лекар, калега маёй дачкі, прывёз мне ў падарунку афрыканскую бульбіну, наесціся якой магло б смела пару сямей, бо важыла яна больш трох кілаграмаў. На здымку відаць, наколькі яна вялікая і якую мае форму. Напамінае ў нечым наш прадаўгаваты кабачок і так жа, упоперак яе рэжуць, падрыхтоўваючы розныя стравы.

Усадзэ быў нядаўна ў Англіі, дзе сустрэўся са саваяком, які прывёз яму з роднай Нігерыі крыху такой бульбы. У Нігерыі называюць яе „ям”, і іншай бульбы Усадзэ ў рот не бярэ. Куды там вашай бульбе да „яма”, кажа ён:

Доктар Усадзэ Укунбоўа нарадзіўся ў Афрыцы (у Нігерыі, горад Бэнін-Сіты), але штудзіраваў матэматычна-фізічныя навукі ў Лондане. У Польшчы закончыў Медыцынскую акадэмію, бо пра медыцыну марыў усё жыццё. Першыя чатыры гады вучыўся ў Варшаве, а пяты і шосты курсы закончыў у Беластоку, дзе ажаніўся. Мае малога сынка Усадзэ-юніёра, які пайшоў ужо ў прадшколле.

Малы Усадзэ таксама кажа на бульбу-фры: „бэ”, але ахвотна есць з бацькамі „ям” і рыс, хаця мама ў яго тутэйшая. Гатуе найчасцей тата, бо дагадзіць яму было б надта цяжка. Еўрапейскай кухні доктар не прызнае. У Лондане, аднак, лягчэй было купіць усё, што трэба, каб было паафрыканску, а ў Беластоку гэта амаль немагчыма. Дык, калі ён едзе ў Лондан, прывозіць адтуль што можа, а перш за ўсё сыпкі рыс, які не разварваецца, у 50-кілаграмавых мяшках. У Англіі ён у чатыры разы таннейшы! А дзе ў Беластоку купіш нігерыйскую фасолю?!

Доктар Укунбоўа ж не есць нашай бульбы, хлеба, яек, не п’е чаю, кавы, малака, кампоту. У сваёй кухні не выкарыстоўвае ні свініны, ні хатняй птушкі. Кураня — барані Божа! Нядобрае.

А што ён варыць? Перш за ўсё нігерыйскую фасолю, рыс, „ям”, рыбу (!!!), цяляціну і ялавічыну, вельмі любіць бараніну. Ахвотна падрыхтаваў бы антылопу, але дзе яе тут возьмеш... Можа быць замест яе мяса аленя. Часта робіць таксама смажаныя бананы, але вялікія, не тыя, што ў нас прадаюцца.

— У Каіры мне давялося есці катлеты з антылопы, — кажу яму, — дык, думала, не праглыну.

— Бо яны там у Егіпце кепска вараць! Мы варым асаблівым спосабам, — сказаў Усадзэ.

Ці часта вараць гэты „ям” афрыканцы? Бо мы ж без бульбы не можам абысціся ніводнага дня! О, у Нігерыі гэта нацыянальная страва. Таксама і ў Гане. Гэтая бульба наогул вельмі дарагая. Калі параўнаць з фруктамі, дык суадносіны такія: адзін апельсін каштуе пару пенсаў, а „ям” — некалькі фунтаў. А ўсё ж такі людзі купляюць „ям”, прычым нельга купіць, напрыклад, палавіну ці кавалак бульбіны. Яе не дзеляць, і трэба купляць цэлую.

— А кажуць жа, што ў Афрыцы пануе голад? — дзіўлюся я.

— У Нігерыі людзям на яду хапае грошай. Можа, у іншых справах крыху горш, — тлумачыць мне Усадзэ.

„Ям” садзяць у сакавіку. У зямлю кладуць насенную бульбу велічынёй нашай бульбіны. Яна пускае парасткі ўверх, якія закручваюцца і напамінаюць галінкі фасолі. Уніз ад тае бульбы адрастае вялізная бульбіна „ям”, а часамі нават дзве. Вядома, яны знаходзяцца таксама ў зямлі, яшчэ глыбей. Недзе ў верасні, калі лісце становіцца карычневае, бульбу „ям” можна капаць. На галінках збіраюць новыя бульбы на насенне.

Што гатуюць у Нігерыі з бульбы? Найчасцей — страву **„ікпоўо”**. „Ям” абіраюць і рэжуць упоперак, як у нас, скажам, кабачок. Пасля кожны кавалак дзеляць на чатыры часткі і тушаць з мясам ці рыбай, цыбуляй, алеем і вельмі вострым перцам. Вядома, даліўшы вады і пасаліўшы. Усадзэ параіў мне дадаць яшчэ нашых прыпраў (бо вы ж без іх не можаце абысціся), але ў Нігерыі прыпраў не дадаюць: дастакова солі, цыбулі і вострага перцу, так, каб у сярэдзіне гарэла!

Вельмі распаўсюджана там страва, якая складаецца з тоўчанай бульбы (вядома, найперш зваранай), якую пасля бяруць **рукамі** і мачаюць яе ў супе, які больш нагадвае густы соус з мяса і рыбы, памідораў, цыбулі, вострай папрыкі, алею, солі. Робяць таксама суп з дыні, таксама густы, як і соўс.

Можна таксама спячы цэлую бульбіну „ям”, а пасля дзяліць яе на порцыі, рэжучы ўпоперак, і есці з падазеным вышэй соусам.

І можна проста зварыць „ям”, дзелячы папярочныя кавалкі на палавінкі. Пасаліць і есці, напрыклад, з яешняй.

А яшчэ робяць страву **„дуду”**. Абабраную бульбіну „ям” рэжуць вельмі тоненька і смажаць у алеі. Нагадвае гэта бульбу-фры.

Вядома, бульбай я называю гэты „ям” умоўна, бо Усадзэ кажа, што „ям” — без параўнання лепшая!

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Ясень

Ясень зялёны, у тваёй кароне птушка схаваецца. Дрэва гэта мацатой славіцца: робяць з яго мэблю, сталы. Прыгожа, калі ясень расце на тваім двары. Хаця не ўсе з гэтым згодзяцца, бо розныя ў нас думкі ў галаве родзяцца. Маўляў — няхай лепш расце яблыня, сліўка... Згаджаюся: гэта наша карысная ніўка. Але хопіць месца і для ясеня зялёнага, хаця мо не вельмі моднага.

Ясень рэдка выступае ў прыродзе і напэўна любіць расці на свабодзе. Але людзі любяць яго з лесу ўкрасці і за вялікія грошы прадаці. З яго матэрыял моцны і белы, і калі майстар руплівы і ўмелы — патрапіць з яго зрабіць амаль цуда. І з гэтым дрэвам мы павінны абыходзіцца мудра. У Белавежскай пушчы ён пад аховай — гэта лічыцца амаль навінкай новай. Але розныя марадзёры знаюць свае „сцежкі”, каб яго зрэзаць і вывезці на свае „палеткі”. Трэба заваструць дысцыпліну над ляснымі зладзеямі і не літавацца над іхнімі „падзеямі”. Злодзей цябе не шкадуе і ніколі не паратуе. Ясень, як і моцны, магутны дуб ацяняе наш родны беларускі кут!

Таксама белая бяроза ласкава шуміць, каб у нашай душы спагаду адкрыць. Кожнае дрэва — гэта прырода жывая, ніколі яна не слабая. Але чалавек сваёй дурнотай яе знішчае і выключна пра сябе дбае. Але ёсць і вялікія прыроды абаронцы і няхай ясна і цёпла свеціць ім сонца, бо дзякуючы ім свет яшчэ існуе і жыве і празрыстым ручайком вада з крыніцы б’е.

**Мікалай Панфілюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Занепакоілася я сном, які мне прысніўся, калі я, выправіўшы мужа раненька на работу, прылегла, каб яшчэ крыху задрамаць.

Вось сніцца мне, што стаю я ў пад’ездзе блёка, пасярэдзіне. З правага боку, каля сцяны стаіць сваячка майго мужа (яна ўжо не жыве) з выцягнутай у мой бок рукой. На далоні ляжаць металічныя манеты. Многа іх — большай і меншай вартасці. Яна дае іх мне (хаця нічога не гаворыць, але я гэта разумею). Я аднак, не хачу іх браць. З левага боку стаіць наша парт’ерша з працы (таксама даўно памерла). Абедзве яны маўчаць.

Што ж гэта абазначае?

І яшчэ прысніўся мне бацька (няма яго ўжо даўно ў жывых). Ляжыць на ложку, моцна хворы, ці нават паміраючы ўжо. Я стаю пры ложку адна. Стаю ціха, ды са спакоем гляджу на бацьку.

**Марыся**

Марыся! Кажуць, што калі сняцца нябожчыкі, дык гэта някепска, бо праўдзіўшчалі б яны табе здароўе і даўгавечча. Але ж ты гэтых людзей бачыла, як жывых, ды ў дзеянні.

Вось, напрыклад, у першым сне ты бачыла сваячку, якая працягвала табе манеты. Новыя манеты заўсёды абазначаюць нейкія клопаты. Хіба што былі б яны старадаўнія, тады можна было б спадзявацца нечаканага багацця, можна сказаць, скарбу. Твае клопаты могуць вынікнуць з боку нейкіх блізкіх табе людзей, родзічаў.

Што датычыцца другога сну, дык і ён можа занепакоіць. Бацька ў сне заўсёды прадвяшчае нейкі клопат, а нават (у тваім выпадку) можа быць нейкая непрыемнасць. Бачыш, твой бацька ў сне быў вельмі хворы, а мо нават паміраючы.

Смяртэльнай небяспекі, аднак, не бойся. Гэта табе не пагражае.

**Астрон**

# Сустрэча ў Калабжэгу

Будучы на адпачынку ў Калабжэгу я наведаў тры мясцовыя рэдакцыі: „Kulisy Kołobrzeskie”, „Gazeta Kołobrzeska” і „Głos Koszalina”. Гэта сустрэча, на маю думку, была карысная, бо жменька беларусаў, якая там пражывае, не мае сваёй арганізацыі і не ведае, як жывуць беларусы ў іншых раёнах краіны. Я дэталёва распавёў пра беларусаў Беласточчыны і сваю дзейнасць у Ольштыне. Вечар прайшоў у мілай атмасферы, а журналісты паабяцалі напісаць у сваіх выданнях пра беларусаў у Польшчы.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Найлепшыя — на выстаўку!

Гайнаўскі дом культуры арганізуе агляд і выстаўку творчых дасягненняў мастацкай самадзейнасці: мастакоў-жывапісцаў, разьбяроў, ткачых і таксама вышывальніц з Гайнаўшчыны. Тэмы і тэхніка выканання адвольная. Тры-чатыры экземпляры сваіх работ трэба даставіць у ГДК да 21 лістапада г.г. Выстаўка і ўручэнне ўзнагарод адбудуцца ў снежні 1998 года.

За дэталёвай інфармацыяй можна звяртацца да інструктара жывапісу ГДК Зінаіды Якуць, тэл. 682-32-03.

**(гай)**

# Памятаюць пра сеніёраў

5 лістапада г.г. у мясцовым асяродку культуры ў Драгічыне будуць святкаваць Дзень сеніёра. У мастацкай праграме выступіць калектыў „Шпакі” — дзіцячая танцавальная група, якую вядзе Людміла Вішанка ды самі сеніёры. Пачатак мерапрыемства а гадзіне $15^{00}$.

* * *

7 лістапада г.г. адбудзецца сустрэча сеніёраў у Літвінавічах (Нурэцкая гміна). А гадзіне $17^{00}$ у вясковай святліцы спяваць будзе калектыў „Вясёлка”, а вершы прачытае народная паэтэса Станіслава Грабаноўская з Нурца-Станцыі.

Пасля мастацкай часткі адбудзецца пачастунак. Мерапрыемства ладзяць Гмінны асяродак культуры і Гмінны асяродак грамадскай дапамогі ў Нурцы, а таксама Сельскагаспадарчы дарадчы цэнтр у Сямятычах.

**(яц)**

***Ніва***, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міравіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A.; I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка



Мал. Алега КАРПОВІЧА

Адгалоскі

## Да „Хрушчова вечна жывога”

Па Беларусі хадзіў некалі такі анекдот:

Размаўляюць два сябры:

— Уяўляеш сабе! Выхаджу неяк зранку з хаты пасля бурна праведзенай ночы. Іду сабе, нікога не чапаю. Раптам нейкая гадзіна наступае на мой гальштук!

* * *

Добра было б даведацца, у якім самапачуцці аўтар артыкула „Хрушчоў вечна жывы” **валокся** па вуліцы, калі яму здалася ў вачах машына з дыпламатычнымі нумарамі.

Аўтамабіль з нумарам WA 86900 паркуецца на стаянцы па вул. Ліповай 41. Кожны выезд і ўезд службовага аўтамабіля Генконсульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку фіксуецца ў дзённіку вартаўнікоў. У перыяд ад 12 да 18 кастрычніка б.г. аўтамабіль *Ford Mondeo* выязджаў на штодзень не раней 8-й гадзіны раніцы, што і падцвярджаецца дакладнымі запісамі, аб чым аўтар нарыса можа атрымаць даведку.

Добра было б нагадаць аб тым, што вадзіцелі з дыпламатычнымі нумарамі звычайныя людзі і памыляюцца так сама як простыя беластачане. Хочацца верыць, што калі суне хто-небудзь аўтару артыкула пра Хрушчова ў руку кольт, газеты не надрукуюць, што той пазабіваў палову Беластока.

**(гк)**

Ад аўтара:

Мікіта Хрушчоў, які ў Нью-Йорку падчас выступлення ў ААН біў ботам па кафедры, з'яўляецца сімвалам пэўнага тыпу культурнасці. І паводзіны „вадзіцеля з дыпламатычнымі нумарамі”, і асабліва ж сам адказ (гк) на апісанне эпізода з'яўляюцца выразным доказам таму, што Хрушчоў — вечна жывы. „Вадзіцелі з дыпламатычнымі нумарамі” гэта не такія ж зноў „звычайныя людзі”, бо яны, падкрэсліваю яшчэ раз спадару (гк), ствараюць імідж і сваёй краіне, і свайму грамадству перш за ўсё ў замежжы і то акурат у тых цэнтрах, дзе фарміруецца грамадская думка. Мабыць носьбітам „з дыпламатычнымі нумарамі” згаданай культурнасці гэта выгадна так, як і валяць гальштук па тратуары. Жыве Хрушчоў!

Нягледзячы на запісаную ў паперах гадзіну, „вадзіцель з дыпламатычнымі нумарамі” літаральна парушыў закон дарожнага руху. А гэта таксама, а не толькі кольт, забівае людзей. Заміж кольта можна бу ў руку сунуць і баранку. З дыпламатычнымі нумарамі...

І наканец цалкам прыватна: вялікі мне гонар, што мая зацемка спарадзіла такі хуткі і рашучы адказ. І я непахісна перакананы, што калі б заміж мяне па Беластоку разглядаўся згаданы мною прэзідэнт Лукашэнка, які для падуладных — *царь, бог и воинский начальник*, і зганулу пра інцыдэнт, спадар (гк) адказаў бы яму так, як і мне: са згадкаю пра гальштук і гадзіну.

**(ав)**

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Ксёндз, які плыў караблём, паскардзіўся капітану, што матросы брыдка ругаюцца. Капітан развёў рукі і сказаў, што нічога на гэта не парадзіць. Па некалькіх днях узняўся вялікі шторм і ксёндз з'явіўся ў капітана з запытаннем, ці караблю не пагражае небяспека.

— Пакуль матросы ругаюцца, — адказаў капітан, — не хвалюйцеся. Горш будзе, калі пачнуць маліцца.

Праз некалькі гадзін шторм яшчэ больш разлютаваўся і ксёндз зноў з'явіўся ў капітана:

— Ці матросы яшчэ ругаюцца?

— Яшчэ так.

— Дзякуй Богу! — вышаптаў пабляднелы ксёндз.

* * *

— Ці абвінавачаная прызнаецца, што кідала ў свайго мужа памідорамі?

— Так, высокі суд.

— Дык чаму муж мае разбітую галаву і страсенне?

— Бо памідоры былі ў банцы.

* * *

— Так учора смяялася на той камедыі ў тэатры, — расказвае жонка, — што ледзь не памерла.

— Дык павінна ты схадзіць яшчэ раз на той спектакль, — адказвае муж.

* * *

Перад тэлефоннаю будкаю стаіць чарга людзей. Нехта з іх не вытрывае і звяртаецца да мужчыны ў будцы:

— Што вы там вычаўпаеце? Ад дзвюх гадзін трымаеце трубку і не сказалі яшчэ ніводнага слова!

— Цішэй! Я размаўляю з жонкаю.

* * *

— Ты пазнаёміўся са сваёю жонкай у Закапаным?

— Не. У Закапаным мы сустрэліся, у Варшаве ўзялі шлюб, а пазнаёміліся, калі прыехалі ў Беласток.

* * *

З яўрэйскага:

— Ой, каханы, карабель ідзе на дно!

— Не верашчы! Твой ён?

## Прафесійныя нямогласці

Малады рэдактар Аўлас Падляскі паламаў ступак. Бег, вось, за тэмай, лавіў момант, хацеў спаймаць у фотааб'ектыў жывы аб'ект у міні-спадніцы на фоне вельмі каларытнага абдзертага муру, а ўзяў ды наступіў не нейкі каменьчык, костачка хруснула, нягледзячы на тое, што рэдактарскі ступак быў абуты ў салідны італьянскі чаравік (купіў яго Аўлас за месячныя ганарары). Аўлас закульгаў, віснуў ад болю ды пабег далей, з носам наперадзе, ловячы вецер перамен. Жывы аб'ект расплыўся ў нецікавым прыгожанькім пейзажы беластоцкіх Плянтаў.

Аўлас хадзіў тадзень з апухлай нагой. Дактары, ад якіх зачасціў, слабеючы з кожнай хвілінай, загадалі зрабіць яму аналіз крыві, рэнтген лёгкіх і сесці на дыету, зусім не цікавячыся рэдактарскай нагой. Гас Аўлас у вачах. Наканец артапед, да якога трапіў за грошы (ніяк не мог раней дапрасіцца накіравання ад тэрапеўта), паглядзеў на рэнтгенаўскі здымак шлапака нумар дванаццаць і сцвердзіў:

— Маршавы ў вас пераломік. Трэба месячык насіць вам гіпсік, — доктар Зянон Прыдатак, як заўсёды, наконт канечнасцей пацыентаў выказваўся з чуласцю.

— А што ж гэта такое?! — ушчаперыў у адчаі пальцы ў сваю буйную чупрыну Аўлас. — Ніколі не чуў, каб на каменьчыку паламаў хто нагу! Аж месячык?!.

— Гэта нямогласць рэкрутаў і маладых журналістаў, міленькі. Не нервуйцеся, — лагодна ўсміхнуўся лекар. — Можа — месячык, можа, тры...

— А вецер гісторыі дзьме такі... Хто ж будзе ўвекавечваць усё гэта?! Ну, што ж, буду пісаць раман. Дам яму загаловак... хоць бы і „Хаос”. Добра, што хоць рукі ў мяне цэлыя.

— Асцярожна з камп'ютэрам, — заўважыў добры ўрач. — Я, хоць спецыяліст толькі па ніжніх канечнасцях, ведаю выпадак пералому пальцаў адэпта літаратуры. Пісаў ён быў раман у навелах „Сёння”, і бачыце, бяда якая...

— Ну, дык я буду ўжываць шарыкавае пяро...

— Мой знаёмы акуліст расказваў, як аднаму аўтару, што ў запале цісну свае думкі на паперу, выскачыла з амерыканскага даўгапіса верхняя частка ды выбіла бялок...

— Вооой!.. Ну, то алоўкам...

— Дантыст Попка ўспамінаў свайго пацыента, што, грызучы аловак у творчай мэнцы...

**Міра Лукша**

Фрашкі пра нашых

### Адбор у двор

Павысылаў на студыі знаёмых
Дзяцей і ўнукаў *decydent* вядомы,
Сам ў роднай мове не вельмі вучоны.
Камісіі аддаў той *труд* салёны —
Вучняў з Ліцэяў цэрабіць загоны,
Аддаўшы форы для тых *nie uczonych*.

І маеце цяпер кампанію такую:
Плююць на роднае і „родным” тым гандлююць.

**Вандал Арлянскі**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. пранізлівы крык, 8. Мікола, украінскі паэт (1904—83), 9. паэма Гамера, 10. шырокая дошка на высокіх ножках, 11. сістэма савецкіх працоўных лагераў, 13. аўстралійскі вожык, 15. высокі царкоўны сан, 16. Рыгор, беларускі паэт (1914—91), 20. вялікая паўднёваамерыканская рака, 22. сталіца Інданезіі, 23. стараславянскі лясны дух, 27. маятнік у гадзіннікавым механізме, 29. бязладны натоўп людзей, 30. высокі мужчынскі голас, 31. забава, гульня, 32. Уладзімір, савецкі гісторык ВКЛ (1918—83), 33. культурны і гаспадарчы цэнтр Італіі, 34. Лукашэнкаў чырвона-зялёны з арнаментам.

**Вертыкальна:** 1. Васіль, адзін з заснавальнікаў Беларускага сялянскага саюза ў II Рэчы Паспалітай, 2. мяккая мэбля для сядзення і ляжання, 4. агульнае памяшканне для асоб, якія працуюць на адным прадпрыемстве, 5. каляіна, 6. зрушэнне косці ў суставе, 7. з яе слова не выкінеш, 12. украінскі казак, 14. празрысты каштоўны камень залаціста-зялёнага колеру, 16. сум, туга, 17. святыня, 18. эфіраалейная расліна сямейства парасонавых з араматным насеннем, 19. брат Авеля, 21. вечназялёнае паўднёвае дрэва або кусты з вялікімі пахучымі кветкамі, 24. Фабіян, адзін з заснавальнікаў Беларускага сялянскага саюза ў II Рэчы Паспалітай, 25. разбуральны вецер, 26. адпраўляе абрадавую магію, 27. рымскі бог вінаробства, 28. вялікі нігерыйскі порт.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 39 нумара**

**Гарызантальна:** скок, ханжа, аракул, аніс, скарб, спакой, Суінбёрн, Арнім, „Джэмінай”, Ротэрдам, дамба, Інтэрпол, Глазга, ладан, міна, натоўп, „Фауст”, Адам.

**Вертыкальна:** Ганкур, Джэрсі, кананада, кассё, Каран, мусон, бумеранг, прамедол, Акра, нота, гном, айва, Жмерынка, алапат, Бранск, Алтай, ізгой, Тампа.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.